21 красавіка 2017 | № 15 (529)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Над Старым замкам згушчаюцца хмары стар. 10

4 ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ: МЫ АДКАЗВАЕМ НА ВЫКЛІКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ ПЕРАД ГРАМАДСТВАМ



Сёння Дашкевіч — ці не найбольш аўтарытэтны малады палітык, за спінай якога перамога ў Курапатах, безліч вулічных акцыяў і турэмныя засценкі

5 «НІБЫТА І НЕ БЫЛО ГЭТАЙ КАТАСТРОФЫ...»

Яны былі дзецьмі, калі адбылася катастрофа на Чарнобыльскай АЭС. А хтосьці з іх тады нават не нарадзіўся, але «носіць з сабой» рак

6–7 ВЫШЭЙШАЯ АДУКАЦЫЯ: РЭФОРМА ЦІ ПРАЦА НАД ПАМЫЛКАМІ?

Недальнабачная палітыка ў сферы вышэйшай адукацыі балюча ўдарыла па самой жа сістэме



11 БРУТАЛЬНАЕ ПАДСЯЛЕННЕ Ў ГІСТАРЫЧНАЙ ЗОНЕ НЯСВІЖА

Што магло здарыцца на старажытных пагорках Новага Места ў Нясвіжы? Там вырашылі пабудаваць офіс Нясвіжскага міжраённага аддзялення КДБ

# Краіна пераможнага цынізму

## Колькі ні імкніся не заўважаць чарнобыльскую праблему — яна не знікне



Сяргей ПУЛЬША

Мінгарвыканкам вырашыў паздзекавацца з заяўнікаў «Чарнобыльскага шляху». І прапанаваў правесці акцыю ў гадавіну аварыі на ЧАЭС у працоўны дзень з 14 гадзін да 16.30. Арганізатары ў шоку. Грамадства — таксама.

Насамрэч, чакаць нармальнага стаўлення да гэтай заяўкі не выпадала. Канешне, даць дазвол на памятнае мерапрыемства ў разгар працоўнага дня — вышыня цынізму. Але тут не ў асобах заяўнікаў і не ў «пятай калоне», як любіць выказвацца Аляксандр Рыгоравіч, справа. Справа ў стаўленні ўлады да самой Чарнобыльскай катастрофы.

Чарнобыль папросту не ўпісваецца ў афіцыйную беларускую ідэалагему. Які б вобраз, які б малюнак краіны ні стварала яе кіраўніцтва, усё разбіваецца праз адно — Чарнобыль.

Якая можа быць «моцная і квітнеючая Беларусь», калі 23% яе тэрыторыі забруджана радыенуклідамі са шчыльнасцю больш за 1 Кюры/км па цэзію–137? Які можа быць «беларускі эканамічны цуд», калі 264 тысячы гектараў земляў краіны былі выключаныя з сельскагаспадарчага абароту? З іх удалося рэабілітаваць толькі каля 15 тысяч гектараў, і тое «рэабілітацыя» выклікае вялікія сумневы. Зараз новы слоган: «Беларусь — краіна для жыцця». Добрая ж «краіна для жыцця», дзе цэзіем–137 забруджана каля 20% тэрыторыі, стронцыем–90 — каля 10%, ізатопамі трансуранавых элементаў — яшчэ да 2%.

З-за жадання «не бачыць радыяцыю» і ўзнікае нездаровы цынізм, які выяўляецца амаль ва ўсім. Нам кажуць, што Беларусь «пераадольвае» наступствы аварыі на ЧАЭС, — і скарачаюць забруджаныя зоны. Нібыта, там можна жыць. Але ніводзін чыноўнік пакуль не пабудаваў хатку там, дзе «жыць можна».

Не пабудаваў, бо насамрэч — нельга. І яшчэ доўга будзе нельга. У выніку бэта-распаду на забруджаных тэрыторыях плутонію–241 узнікае амерыцый–241 (241Am) у колькасцях, параўнальных з колькасцю плутонію. 241Am мае высокую радыетаксічнасць — з часам ён становіцца больш актыўным. Паводле разлікаў навукоўцаў, рост актыўнасці глебы, забруджанай трансуранавымі ізатопамі, за кошт 241Am будзе працягвацца да 2060 года. Праз 100 гадоў пасля аварыі на ЧАЭС агульная актыўнасць глебы на забруджаных тэрыторыях будзе ў 2,4 разы вышэй (!), чым у пачатковы пасляаварыйны перыяд. Зніжэнне актыўнасці глебы ад 241Am чакаецца хіба пасля 2400 года!

У той жа час Беларусь амаль дабудавала атамную станцыю. Не будзем казаць, наколькі тэхналагічна і эканамічна апраўданая «будоўля стагоддзя». Узгадаем толькі, што нам абяцалі правесці рэферэндум наконт будаўніцтва АЭС. Ён быў? Не.

Няцяжка здагадацца, чаму. Нават паводле дадзеных даследавання Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі, і нават сёння, калі АЭС практычна пабудаваная, яе стварэнне ўхваляюць менш за палову беларусаў. Згодна з апошнім апытаннем, падтрымліваюць будаўніцтва станцыі 49,8% беларусаў. Прычым, бар'ер у 50% не перасякаецца з 2012 года (станцыю пачалі будаваць у 2011-м). Зразумела, што ў такіх варунках «элегантную перамогу» на рэферэндуме атрымаць не ўдасца.




**Чарнобыль не ўпісваецца ў афіцыйную беларускую ідэалагему**

І такія лічбы выдае дзяржаўны сацыялагічны інстытут.

Пра стаўленне ўлады да тых жа ліквідатараў аварыі на ЧАЭС і казаць не варта. У іх забралі ільготы, бясплатны праезд, санаторна-курортнае лячэнне і зрабілі выгляд, што іх, нібыта, і не існуе.

Ужо які год мяне бянтэжыць адзін паказальны факт. Якой бы ні была заяўка на «Чарнобыльскі шлях», у які б дзень акцыя ні праводзілася, якім бы ні быў адказ Мінгарвыканкаму — у гэтым дазволе практычна ніколі не прадугледжваецца мерапрыемства, якое павінна быць у акцыі цэнтральным. У дазволе Мінгарвыканкаму амаль ніколі не знаходзіцца месца для памінання ахвяраў Чарнобыля: ускладання кветак і запальвання знічак ля Чарнобыльскай капліцы на вуліцы Карастаянавай.

Але ад таго, што праблему надзвычай цынічна не заўважаць, яна не знікне. І гэты цынізм уладаў калі-небудзь абавязкова вылезе бокам.

Абурэнне мае асаблівасць назапашвацца. Учора вы пакрыўдзілі «дармаедаў», якія насамрэч ніякія не дармаеды. Сёння вы пакрыўдзілі «чарнобыльцаў». Заўтра пакрыўдзіце прафсаюзы і камуністаў (як жа, 1 мая на носе). Пасляззаўтра ўся прапаганда будзе крычаць пра «вялікую перамогу» і «шанаванне памяці ветэранаў», а ветэраны будуць падлічваць, на колькі ўпала пакупніцкая здольнасць іх пенсій. І калі-небудзь усё гэтае назапашанае абурэнне аб'яднаецца і грымне. Грымне так, што мала не пакажацца. І да гэтага, як паказваюць веснавыя падзеі, не так ужо і далёка, як падаецца.

Аналагічны цынізм быў у СССР. Там таксама казалі, што «ў Чарнобылі нічога не адбылося», забаранялі «чарнобыльскія» мітынгі, сцвярджалі, што малыя дозы радыяцыі не шкодныя, а нават карысныя. Там таксама «не бачылі радыяцыю».

# Хворыя на рак атрымалі дапамогу

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Актывісты Дабрачыннага аб'яднання «Дапаможам дзецям Чарнобыля» 17 красавіка наведалі хворых на рак, якія перанеслі аперацыі.**

Актывісты ДА «Дапаможам дзецям Чарнобыля» наведалі сельскіх жыхароў і ўручылі ім імянныя падарункі. Мерапрыемства прайшло дзякуючы падтрымцы тых грамадзян Германіі, якія прымаюць дзяцей на аздараўленне.

Адзін з праектаў дабрачыннай арганізацыі — «Дапамога дзецям-ахвярам Чарнобыля» — накіраваны на падтрымку дарослых людзей, якія ў дзіцячым ці падлеткавым узросце захварэлі на рак з-за перавышанай дозы радыяцыі ў арганізме. Напрыклад, у Буда-Кашалёўскім раёне тых, каму быў пастаўлены дыягназ «рак шчатападобнай залозы», 69 чалавек.

Арганізацыя падзяліла хворых на дзве групы. Першая група — гэта жыхары раёна, якія на момант катастрофы было да 18 гадоў або дзеці, якія нарадзіліся ў першыя дзесяць гадоў пасля катастрофы, а пазней захварэлі на рак. Такіх налічваецца 38 чалавек. З гэтай групы інваліднасць маюць 29 чалавек, у 9 чалавек група была знятая. Сувязь захворвання з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС маюць 26 чалавек.

Другая фокусная група — гэта жыхары Буда-Кашалёўскага раёна, таксама тыя, каму на момант катастрофы было да 18 гадоў альбо яны нарадзіліся ў першыя 10 гадоў пасля катастрофы, аднак пасля атрымалі іншыя захворванні, якія звязаныя з катастрофай на АЭС. Такіх налічваецца 5 чалавек.

Напярэдадні гадавіны Чарнобыльскай катастрофы ДА «Дапаможам дзецям Чарнобыля» вырашыла наведаць сельскіх жыхароў, якія ўваходзяць у гэтыя фокус-групы. Ім былі перададзены наборы з бытавой хіміяй і базавымі прадуктамі харчавання.

Кіраўніца дабрачыннага аб'яднання «Дапаможам дзецям Чарнобыля» Буда-Кашалёва Валянціна Смольнікава ў 1980–1990-х і 2000-х гадах працавала педыятарам. І большасць хворых дзяцей, якія сёння ўжо сталі дарослымі, прайшлі праз яе рукі.

«Я памятаю іх гісторыі. Я памятаю, што перажылі ў свой час іх бацькі. І зараз большасць з іх — неўладкаваныя ў жыцці людзі, бо маюць вялікія комплексы. Мы намагаемся дапамагаць ім, як толькі можам. Нашы нямецкія сябры некалькі разоў на год прысылаюць гуманітарную дапамогу. Мы можам дапамагчы таксама з вазкамі для інвалідаў, мыліцамі ці медыкаментамі», — падкрэсліла Вольга Смольнікава.

Гэта акцыя — не адзінкавая. У наступныя дні актывісты плануюць наведаць таксама і памерлыя вёскі, куды можна праехаць толькі па пропусках.

# Хто судзіць?

**Як мінімум 14 беларускіх суддзяў, якія раней былі ўключаны ў спіс абмежавальных захадаў Еўрасаюза, працягваюць выносіць палітычна матываваныя рашэнні.**

У прыватнасці, на працягу апошніх некалькіх месяцаў яны судзілі шматлікіх мірных дэманстрантаў, актывістаў грамадзянскай супольнасці і журналістаў на фоне хвалі пратэстаў па ўсёй краіне.

Так, у базе фактаў пераследу ПЦ «Вясна» зафіксаваны 17 прысудаў, вынесеных Валерыем Есьманам у перыяд паміж 1 студзеня 2016 і 14 сакавіка 2017 года. Таксама ў кастрычніку 2016 года ён прысудзіў сацыяльнага актывіста Зміцера Паліенку да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду. 7 красавіка бягучага года, у сувязі з актыўнай грамадскай дзейнасцю Паліенкі, прысуд быў заменены рэальным тэрмінам у калоніі.

Зафіксаваны 19 палітычных прысудаў, вынесеных Віктарам Казаком у перыяд паміж 1 студзеня 2016 і 17 лютага 2017 года. Так, ён прысудзіў актывіста Паўла Вінаградава да вялікага штрафу за акцыю пратэсту 17 лютага 2017 года. Пасля гэтага выносіў прысуды за акцыі 25–26 сакавіка, у тым ліку Алесю Лагвінцу, які быў прэвентыўна затрыманы напярэдадні масавых мерапрыемстваў.

Тацццяна Мотыль у перыяд паміж 1 студзеня 2016 і 10 сакавіка 2017 года вынесла 31 палітычна матываваны прысуд. Яна судзіла прынамсі двух затрыманых у выніку акцый 25–26 сакавіка, у тым ліку журналіста тэлеканала «Белсат» Аляксандра Баразенку, які асвятляў гэтыя акцыі.

Нагадаем, 31 ліпеня 2015 года Савет ЕС скараціў санкцыйны спіс, выключыўшы з яго 24 асобы, у тым ліку суддзяў, датычных да палітычнага пераследу грамадзян у 2010–2012 гадах.

**spring96.org**

# Якім будзе Чарнобыльскі шлях

Сяргей ПУЛЬША

**Нягледзячы на тое, што арганізатары «Чарнобыльскага шляху» падалі заяўку на мерапрыемства ажно 3 красавіка — за тры тыдні да яго правядзення — лёс акцыі дагэтуль не вызначаны.**

Сёлета жалобнае шэсце, на думку ініцыятараў, павінна было прайсці па нязвыклым маршруце. Некалькі гадоў запар людзі збіраліся ля Акадэміі навук і рушылі на плошчу Бангалор, і далей — да Чарнобыльскай капліцы на вуліцы Карастаянавай. Гэтым разам гадавіна аварыі на ЧАЭС выпала на працоўны дзень — сераду. Таму арганізатары вырашылі сабраць народ а 18-й гадзіне ля Опернага тэатра — на плошчы Парыжскай камуны. Там павінен быў прайсці мітынг, а затым шэсце да Чарнобыльскай капліцы.

Усе планы заяўнікаў парушыў Мінгарвыканкам. Ён перакруціў амаль усё, што можна, пакінуўшы ад патрабаванняў арганізатараў толькі дату. Гарадскія ўлады заявілі, што збор павінен быць у 14 гадзін (гэта ў працоўны дзень!) ля кінатэатру «Кастрычнік», а затым — шэсце на плошчу Бангалор і мітынг там. То бок, фактычна чыноўнікі прызначылі новае мерапрыемства.

Інакш як здзекам такія дзеянні Мінгарвыканкама не назавеш.

Заяўнікі акцыі паспрабавалі «адваяваць» хаця б час збору, і 19 красавіка перадалі ў Мінгарвыканкам патрабаванне змяніць час правядзення акцыі 26 красавіка з 14.00 на 18.00. Тады ж яны спадзяваліся сустрэцца з кіраўніцтвам горада. Але марна — усе чыноўнікі былі альбо «на нарадах», альбо «занятыя».

«Мы паўгадзіны спрабавалі датэлефанавацца, але нікога на месцы не было, — паведаміў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павел Севярынец. — У выніку да нас выйшла начальнік аддзела дакументазвароту Іна Кавалеўская і прыняла заяву. Мы папярэдзілі: калі да пятніцы (21 красавіка) не будзе адказу, гэта будзе азначаць, што Мінгарвыканкам сарваў «Чарнобыльскі шлях».

Зараз аргкамітэт мае намер падаць у суд на Мінгарвыканкам, бо той, як лічыць Севярынец, парушыў заканадаўства. «Па законе аб масавых мерапрыемствах, улады могуць мяняць месца і час правядзення акцыі толькі па ўзгадненні з заяўнікамі», — сказаў ён.

Калі ўлады будуць настойваць на сваім, альбо надалей высоўваць непрымальныя ўмовы, аргкамітэт «Чарнобыльскага шляху» будзе заклікаць людзей прыйсці на санкцыянаваны ўладамі мітынг з нагоды гадавіны аварыі на ЧАЭС, які арганізуе 26 красавіка ў Кіеўскім скверы Кансерватыўна-Хрысціянская партыя — БНФ. Час яго правядзення — з 18 да 20 гадзін.

# Кулакова чакае новы суд

Алесь КІРКЕВІЧ

**З ізалятара на Акрэсціна 19 красавіка выйшаў актывіст Леанід Кулакоў, які правёў за кратамі 25 сутак. Гэта рэкордны тэрмін па адміністратыўнай справе, які атрымлівалі ўдзельнікі сакавіцкіх пратэстаў.**



Сустрэць актывіста да сцэнаў ізалятара прыйшлі сябры, паплечнікі ды актывісты, агулам каля 15 чалавек. Леанід выйшаў на волю з амаль «біблійнай» барадой, стомлены, але ў добрым настроі. Яго затрымалі 25 сакавіка на падыходах да месца правядзення мітынгу ды абвінавацілі паводле двух артыкулаў — 23.4 і 23.34 — Адміністратыўнага кодэксу.

«Я прадчуваў, што так будзе, — распавядае Кулакоў, — але не мог па-іншаму: мусіў быць побач з людзьмі… Чаму шмат далі? Мабыць, таму, што ў судзе міліцыянту, які выступаў сведкам, я прапанаваў паклясціся здароўем Лукашэнкі ў тым, што ён кажа праўду. Той адмовіўся. Магчыма, суд менавіта на гэта так адрэагаваў».

Праз праблемы са страўнікам актывіст падчас зняволення еў толькі кашы. Змесціва перадач, якія яму даходзілі, збольшага раздаваў сярод сукамернікаў — «не палітычных». Аніводнага ліста ці паштоўкі яму не дайшло, нягледзячы на тое, што знаёмыя рабілі спробы даслаць Кулакову вестачку «з волі».

Адразу пасля вітальных слоў Кулакову сябры перадалі новыя позвы і сумную навіну пра канфіскацыю ягонага аўтамабіля. Ужо праз 2 дні актывіста чакае чарговы суд.

# Кампрамісны маршрут на 1 мая

**На 1 мая апазіцыя ў Мінску плануе акцыю салідарнасці ў падтрымку рэпрэсаваных.**

«На 1 мая запланаваны не толькі марш салідарнасці з працоўнымі, але і з усімі грамадзянамі, якія трапілі пад хвалю рэпрэсій», — сказаў, адкрываючы пасяджэнне аргкамітэту Маршу салідарнасці, кіраўнік руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

Заяўнік акцыі, намеснік старшыні БКДП Сяргей Антусевіч, абвясціў мяркуемы маршрут. Збор а 16-й гадзіне на пляцоўцы каля Нацыянальнай акадэміі навук, шэсце па вуліцы Сурганава, мітынг у парку Дружбы народаў.

Віталь Рымашэўскі, сустаршыня БХД, заявіў: «Мы не падзяляем сацыяльныя і палітычныя патрабаванні. 1 мая будзе гучаць голас салідарнасці ў падтрымку ўсіх рэпрэсаваных. Калі ўлада нас зноў не пачуе, наступным крокам будзе агульнанацыянальны страйк».

Прафсаюзны актывіст Аляксандр Еўдакімчык пацвердзіў: май стане месяцам уздыму працоўнай актыўнасці, акцыі запланаваныя ў шэрагу рэгіёнаў краіны.

Алена Яськова, юрыстка БКДП, не выключае, што ўлады паспрабуюць нейтралізаваць кангрэс, паколькі людзі ва ўсёй краіне патрабуюць пераменаў, і дэмакратычныя прафсаюзы мусяць узначаліць калоны пратэстоўцаў.

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька назваў марш «кампрамісным», бо арганізатары пагадзіліся на «непапулярны маршрут»: «Але мэта — кансалідаваць грамадства, а не раскалоць яго. Арганізатары не выключаюць правакацый 1 мая, хоць ніякіх гвалтоўных захадаў дэмакратычная грамадскасць ніколі не пераследавала».

**www.svaboda.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Аргументы і факты

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Дзіўная рэч — статыстыка. Нібыта, і дакладная навука, а нібыта — гледзячы што з чым параўноўваць. Таму бывае так, што з аднаго боку ў нас усё добра, а з іншага — не вельмі.**




ВУП Беларусі ў першым квартале 2017 года вырас у параўнанні з 1-м кварталам 2016 года на 0,3%, аптымістычна адрапартаваў на тыдні прэм’ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў. А індэкс-дэфлятар ВУП за квартал у адносінах да аналагічнага перыяду папярэдняга года склаў 107%. Дэфлятар — гэта такі цэнавы індэкс, створаны для вымярэння агульнага ўзроўню цэн на тавары і паслугі за пэўны перыяд. У дадзеным выпадку, за квартал.

Але, калі пакорпацца ў даведніках, мы пабачым, што індэкс-дэфлятар колькасна роўны індэксу росту цэнаў. Калі яго значэнне большае за сто працэнтаў, гэта гаворыць пра тое, што інфляцыя расце, а калі менш — інфляцыя падае. Такім чынам, у нас расце і ВУП, і расце інфляцыя.

Праўда, з Кабяковым у сярэднетэрміновай перспектыве не згодны Міжнародны валютны фонд. Прыкладна адначасова са словамі нашага прэм’ера буржуі выдалі новы прагноз адносна, у тым ліку, беларускай эканомікі. Замест ранейшага прагнозу — мінус 0,5% ВУП — Беларусі прадказалі падзенне таго ж ВУП у гэтым годзе на 0,8%.

Інфляцыя ў Беларусі ў 2017 годзе, паводле ацэнкі МВФ, складзе 9,3% (папярэдні прагноз — 12%), у 2018 годзе — 8,7%.

Паводле прагнозаў нашага ўраду, у мінулым годзе ВУП павінен быў вырасці на 0,3%, МВФ прагназаваў падзенне на 3%. Па выніках, ВУП Беларусі ў 2016 годзе знізіўся на 2,6%. Самі думайце, каму веры больш.

Не верачы нікому, журналісты onliner.by узялі чэк за 21 сакавіка 2016 года і выправіліся ў тую ж краму за тымі ж таварамі — вывучаць цэннікі. У чэку было 19 тавараў, за год патаннеў толькі адзін (не паверыце, гэта бананы). Кошт яшчэ аднаго застаўся тым жа, і гэта маладзёжная сумесь «Белы пелікан»: разынкі, сухафрукты, арэхі. Астатнія падаражэлі. Прычым, падаражэлі ў асноўным свае тавары, беларускай вытворчасці. У выніку на тую ж суму здолелі набыць на шэсць тавараў менш, чым летась.

Калі ў нас таннеюць бананы і застаюцца «на ўзроўні» экзатычныя арэхі, а даражэе тавар, які мы ствараем самі, — ці ўсё ў парадку з нашай эканомікай? Адказ, падаецца, відавочны. І ніякім ростам ВУП ад гэтага не закрыешся.

Між тым, заробкі беларусаў працягваюць здзіўляць. Непрыемна здзіўляць. Рэкорд пабіла аддзяленне пошты вёсцы Ровенская Слабада Рэчыцкага раёна. Там патрабуецца прыбіральшчыца на кожны дзень акрамя выходных. Месячны заробак — шэсць рублёў!

Здзіўленаму «Еўрарадыё» паведамілі: гэта не памылка. Сапраўды, за штодзённую працу абяцаюць менавіта такую зарплату.

Канешне, як казаў Астап Бендэр, фінансавая прорва — гэта прорва, у якую можна падаць бясконца. Але такія замалёвачкі паказваюць, наколькі мы ўжо «на дне».

І гэтыя замалёўкі — бесперапынныя. Мабільны аператар «Велком» пераходзіць ад «мабільнасці» ў сферу крэдытавання. Ён прапанаваў сваім абанентам новую паслугу, якую раней ажыццяўлялі розныя «фінкі» — мікракрэдытаванне «да заробку». З дапамогай дадатку v-banking кліенты «Велкома» змогуць пазычыць у кампаніі да 100 рублёў. Гэтыя грошы можна патраціць на аплату тавараў і паслуг праз АРІП — напрыклад, аплаціць камунальныя паслугі. Вярнуць грошы трэба да 20 дня наступнага месяца. За карыстанне грашыма працэнты спісвацца не будуць, але давядзецца сплаціць абаненцкую плату — 3 рублі.

Міністр антыманапольнага рэгулявання і гандлю Уладзімір Калтовіч у эфіры БТ паведаміў, што кавярні і рэстарацыі атрымаюць права пускаць да сябе наведвальнікаў са сваім спіртным. Раней гэта было забаронена. Таксама ўстановам грамадскага харчавання не трэба будзе ўзгадняць меню, рэцэптуры. Не ведаю, для чаго гэта зроблена, але раней прыстойныя ўстановы могуць ператварыцца ў алкагольныя прытоны.

Тым жа, каму пашанцуе найбольш, стануць філіялам Міністэрства замежных спраў. На сайце дзяржзакупак нашае знешнепалітычнае ведамства абвясціла тэндэр на набыццё 1600 бутэлек гарэлкі (1000 бутэлек «гарэлкі белай 0,5 л» і 600 — «гарэлкі сувенірнай 0,7 л»), а таксама 600 бутэлек бальзаму «Беларускі» і 2500 бутэлек настойкі «Белавежская». На гэтыя мэты збіраюцца выдаткаваць 38 тысяч рублёў (каля 20 тысяч долараў). На старонцы тэндэру яшчэ шмат цікавага: напрыклад, 20 каробак цукерак, 10 букетаў кветак і 20 флаконаў з духамі па $50 за штуку.

Напэўна, гэтак мы рыхтуемся да летняй сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, якая павінна прайсці ў Мінску 5–9 ліпеня: «Бабе кветкі, дзецям — марозіва».

А вось хто сапраўды праявіў на гэтым тыдні клопат пра здароўе беларусаў — гэта расіяне. Тамтэйшая асацыяцыя вытворцаў тытунёвай прадукцыі «Табакпрам» прапанавала Крамлю не выдаваць Сінявокай абяцаны крэдыт у мільярд долараў да таго часу, пакуль беларускія стаўкі акцызаў на цыгарэты не зраўняюцца з расійскімі, — ці, прынамсі, будуць набліжаныя да іх. Адпаведныя лісты тытунёвыя кампаніі накіравалі першаму віцэ-прэм’еру РФ Ігару Шувалаву і міністру фінансаў Антону Сілуанаву, піша РБК.

Расійскія вытворцы зазначаюць, што ў памежных з Беларуссю раёнах доля нелегальнага гандлю цыгарэтамі за год істотна вырасла: у 2016 годзе яна складала 8%, а сёлета — ужо 20%. Пры гэтым доля беларускай прадукцыі ў агульным аб’ёме нелегальнага рынку сёлета склала амаль 30%, хаця ў мінулым годзе — толькі 9,4%. Прычына такога росту — у розніцы акцызных ставак і, як вынік, коштаў на беларускую і расійскую тытунёвую прадукцыю.

Увогуле, дзіўна, што ў нас існуе кантрабанда цыгарэтаў у Расію. Раней у гэтым былі заўважаныя выключна заходнія рэгіёны, якія напаўнялі беларускім тытунём Еўрасаюз. Але, як бачым, і ўсходнія беларусы могуць «круціцца», — пры тым, што мяжы з Расіяй у нас няма.

А што рабіць? Па дадзеных Белстата, за студзень-люты 2017 года рэальныя наяўныя грашовыя даходы беларусаў скараціліся на 3,2% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Нават намінальная зарплата за люты бягучага года ў параўнанні са студзенем паменшылася на 0,6%.

І каго пры ўсім гэтым будзе хваляваць рост ВУП? Яго, як кажуць, у кішэню не пакладзеш.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Зміцер Паліенка

**Грамадскаму актывісту ў якасці месца зняволення прызначылі папраўчую калонію №2 у Бабруйску, у якой адбываў пакаранне не адзін палітычны вязень.**

Сярод тых, хто ў папярэднія гады адбываў тэрміны паводле палітычна матываваных прысудаў у ПК-2, былі Андрэй Кім, Зміцер Дрозд, Андрэй Пратасеня, Алесь Бяляцкі. Таксама ў гэтай калоніі на ўзмоцненым рэжыме адбываў пакаранне па першай крымінальнай справе Андрэй Бандарэнка.

Зміцер Паліенка, паводле існуючых працэдураў, пасля прыбыцця ў калонію мусіў быць змешчаны ў так званы «каранцін» — закрыты атрад, у якім новыя вязні знаходзяцца два тыдні. За гэты час яны праходзяць медабследаванне, а адміністрацыя вывучае іх справы і прыглядаецца да іх саміх, афармляе ўліковыя дакументы, пасля чаго размяркоўвае па атрадах.

Праваабарончая супольнасць Беларусі прыйшла да высновы, што асуджэнне Зміцера Паліенкі непасрэдна сталася вынікам рэалізацыі ім свабоды мірных сходаў і выказвання меркавання, і кваліфікуе сацыяльнага актывіста як палітычнага зняволенага, патрабуючы ад уладаў яго неадкладнага вызвалення.



## Зміцер Сасноўскі

**Лідар гурта сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса» стварае Службу дапамогі сем'ям арыштаваных па справе аб «падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» патрыётаў.**

На яго думку, лепшы адказ на беспадстаўныя абвінавачванні — салідарнасць з сем’ямі, якія засталіся без сыноў, братоў, бацькоў.

У сваім фэйсбуку ён піша: «Што трэба мужчыну ў цяжкі час? Толькі адно — ведаць, што твая сям’я ў бяспецы і пад наглядам сяброў. Што жонка і дзеці сытыя, дагледжаныя і трымаюць настрой. Гэта дае сілы стаяць насуперак усяму».

«Арыштаваныя «баевікі» — мае сябры. З усёй адказнасцю сцвярджаю: гэта — лепшыя сыны Беларусі, соль нашага народа. Гонар і годнасць. Адукаваныя, выхаваныя, развітыя фізічна і адухоўленыя любоўю да Радзімы — напэўна, па такіх прыкметах іх і забіралі», — напісаў ён.

Музыка тлумачыць, як будзе працаваць служба дапамогі: «Усе віды дапамогі (фінансавыя пытанні — асабіста з асірацелымі пры жывых). Усё ў ваш вольны час. А яшчэ пішыце лісты іх сем’ям — у падтрымку».

Сасноўскі абяцае: той, хто далучыцца да «Службы дапамогі», стане яго асабістым сябрам. На ўсе фестывалі і канцэрты «Старога Ольсы» — вольны ўваход. «Мае святы на хутары, мае сябры — усё стане вашым. І гэта будзе перамога духу!» — падсумоўвае музыка, запрашаючы пакідаць кантакты і магчымыя прапановы супрацоўніцтва ў асабістых паведамленнях на Фэйсбуку.

## Святлана Алексіевіч

**Нобелеўскай лаўрэатцы патэлефанавалі з Адміністрацыі прэзідэнта і прапанавалі ўзначаліць камісію па вызначэнні варыянту помніка ў Курапатах.**



Алексіевіч адмовілася. «Я адзінае сказала, што там павінны быць людзі, для якіх Курапаты былі справай жыцця. І ўзначальваць такую камісію меў бы права толькі Пазьняк. І там павінна быць больш людзей, якія насамрэч зрабілі Курапаты Курапатамі», — паведаміла пісьменніца «Радыё Свабода». «Людзі сядзяць у турмах, столькі арыштаў было на Дні Волі, такая нянавісць… З такой нянавісцю білі людзей. Таму неяк дзіўна было б мне ўдзельнічаць ва ўсім гэтым», — дадала яна.

На яе думку, такія пытанні павінны вырашацца з дапамогай усяго грамадства. «Пра гэта я і казала, што павінна быць народнае абмеркаванне, паколькі гэта ўсё неяк з-за шырмы. Мне з маім характарам, разуменнем такіх рэчаў… гэта не маё. Я не магу гуляць пад коўдрай».

Зянон Пазьняк ухваліў рашэнне Алексіевіч: «Яна зразумела, што хочуць за яе плячыма схаваць брыдкую справу, і адмовілася. У прынцыпе, слушна зрабіла. А што датычыць, што гавораць, каб Пазьняк узначаліў… Пазьняку трэба прыехаць, каб узначальваць. А прыехаць ён не можа, таму што ў краіне, дзе правіць Лукашэнка, не дзейнічаюць законы. Туды ехаць нельга, таму гэта чыста рытарычная прапанова».

# «Мы адказваем на выклікі, якія стаяць перад грамадствам»

**Сёння Зміцер Дашкевіч ці не найбольш аўтарытэтны малады палітык, за спінай якога перамога ў Курапатах, безліч вулічных акцыяў, турэмныя засценкі. Напярэдадні Вялікадня яго і Сяргея Пальчэўскага выпусцілі з СІЗА КДБ, куды маладафронтаўцы трапілі як фігуранты «Справы патрыётаў».**

Агулам хлопцы правялі за кратамі 24 дні. Тым не менш, яны надалей застаюцца падазраванымі па арт. 293 ч. 3 («падрыхтоўка масавых беспарадкаў»). Камічна, што «масавыя беспарадкі» Дашкевіч, нібыта, рыхтаваў з 2011 года, калі знаходзіўся ў зняволенні пасля Плошчы–2010.

Мы вырашылі паразмаўляць са Змітром Дашкевічам, для якога гэта ўжо трэцяя адсідка і трэці крымінальны артыкул. Прычым паразважаць не толькі пра акалічнасці справы ды ўтрымання ў СІЗА, але і агулам: пра палітыку, жыццё, планы на будучыню.

***— Для цябе затрыманне і крымінальны артыкул былі чаканымі?***

— Я чакаў, што могуць нейтралізаваць перад 25 сакавіка, але ўявіць, што па абсалютна фэйкавай справе… Я ім на допытах казаў: «Паслухайце, я парушаю свядома толькі адзін крымінальны артыкул: 193-1 («дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі». — аўт.), па якім мяне пасадзілі ў 2006 годзе. Хочаце садзіць — калі ласка! Навошта выдумляць ахінею?»

Калі толькі прывезлі ў КДБ, пытаюць: «Будзеце даваць паказанні?» Я кажу, што не. Яны: «Чаго ж вы так? Пабудавалі сцяну адразу…» Я ім адказваю: «Сцяну пабудавалі вы, і я пару дзён таму ў яе ўпёрся». Пра патрыятызм распавядалі, пра Курапаты, пра грамадства, якое ацаніла наш унёсак, кажуць: «Вы ж нармальныя хлопцы!» «Ну, хіба не зусім ненармальныя, калі тут сядзім», — кажу. «Не, дык мы разбярэмся…»

***— Пра што агулам пыталіся?***

— Я пад пратакол наогул ні пра што не казаў. «Белы легіён ведаеш?» — пытаюцца. «Ведаю, — кажу, — але, мабыць, менш, чым вы». «Не, ну мы ж толькі з газет…» «Лазоўскага ведаеш?» — зноў пытаюцца. «Паслухайце, — кажу, — я пра іншых людзей наогул казаць нічога не буду, з пратаколам ці без. Я не ведаю, як вы мае словы выкарыстаеце ды перакруціце». Так і паразмаўлялі.

***— Чаму маладафронтаўцаў падцягнулі пад гэтую справу?***

— Пакуль чэкісты самі не сядуць у камеры і не пачнуць даваць паказанні, мы шмат пра што можам толькі здагадвацца. Па-першае, як я лічу, гэта помста «Маладому фронту» за дзейнасць, якая даўно выйшла за межы дазволенага ў нашай дзяржаве. У размовах, як казалі хлопцы, чэкісты абражаліся і на сцягі, вывешаныя вакол іх будынку на ўгодкі развалу СССР, і на акцыю памяці з партрэтамі расстраляных напярэдадні Дзяды ды на іншае.

Магчыма, гэта яшчэ і помста за Курапаты. Акурат тыя шэсць чалавек, якія там усё пачалі, і былі арыштаваныя. 19-гадоваму Арцёму Леўчанку, напрыклад, даюць дакумент, згодна з якім ён з 2011 года рыхтаваў «масавыя беспарадкі». Ён кажа: «А нічога, што мне тады 14 гадоў было?» А яны ў адказ: «Гэта ж проста лічбы».

Па-другое, падключыўшы да справы маладафронтаўцаў, сілавікі надалі справе гучанне. Колькі журналістаў ці палітолагаў памяталі пра «Белы легіён», які даўно спыніў існаванне? Адзінкі. А «Малады фронт» — гэта раскручаная страшылка для ўладаў, прозвішчы, брэнд. Трэба было нагнаць жарсцяў.

***— А дзейнасць клуба «Ваяр»?***

— Не думаю. Каб гэта так непакоіла ўлады, яны б рэагавалі на гэта ад пачатку. «Ваяр» дзейнічаў адкрыта тры гады, хоць шмат хто яшчэ на самым пачатку прапаноўваў канспірацыю. Гэта паліцэйская дзяржава, таму чым больш адкрыта ты ўсё робіш, тым менш пасля да цябе пытанняў. Стаўка на публічнасць была вельмі правільнай ад пачатку.

***— А чаму не пайшлі на рэгістрацыю?***

— Мы думалі пра гэта, але прыйшлі да высновы, што рэгістрацыя забярэ вельмі шмат сілаў: паперы, валакіта. Гэты час і магчымасці лепш скіраваць на дзейнасць. Тым больш, як кажа досвед, у нас нічога падобнага не рэгіструюць. Той жа клуб «Патрыёт» у Бабруйску быў зарэгістраваны, але ўсё адно сядзяць… Не ратуе гэта.

Яны зараз па тэлебачанні страшылкі паказваюць са страйкбольнымі аўтаматамі, а ў нас год таму на выездах і па 10 такіх у багажніку было. Пад Веткай у нас з Пальчэўскім, калі была акцыя на ўгодкі «Дня вайсковай славы», прывад страйкбольны канфіскавалі. І што? Праверылі ды аддалі. У Мінску на выходных тысячы людзей гуляюць у страйкбол, дзясяткі пляцовак, камуфляж і г.д. І што, усіх садзіць?

***— Ты меў час паразважаць… не думаеш, што нешта рабілі няправільна?***

— Магчыма, мы дапускалі нейкія памылкі, але стратэгічна рухаліся правільна. Мы вырашылі не пантавацца, рэальна ацаніць свае сілы, не казаць, маўляў, за намі дзясяткі тысячаў… Аб'ектына нашы сілы — гэта ад 6 да 30 чалавек. І гэтыя шасцёра збіраюць дзясяткі тысяч подпісаў, арганізоўваюць кампаніі, дзясяткі акцыяў, якія выклікаюць пазітыўнае меркаванне, сцягі, Курапаты… Працуем: спакойна і адэкватна.

***— Ты, здаецца, скептычна ставіўся да пратэстаў супраць Дэкрэту №3, што думаеш зараз?***

— Я скептычна стаўлюся да таго, што «кішкі» прывядуць да нейкіх пераменаў. Я разглядаю гісторыю як Божае дзеянне ў лёсе народаў. Не было сістэмных зменаў у лёсе дзяржаваў толькі праз тое, што людзі галодныя. Так, лозунг: «Хлеба! Солі! Зямлі! Волі!» — таксама сацыяльны, нацыянальнае адраджэнне можа з гэтым спалучацца. Але акцэнт на тым, што мы патрабуем толькі адмены Дэкрэту №3 — няправільны.



Я пазітыўна стаўлюся да таго, што людзі выходзяць змагацца за свае правы. Калі чалавек упершыню выйшаў на вуліцу — гэта вялікі ўчынак, які, магчыма, паспрыяе таму, што чалавек і за іншае будзе выходзіць. Але калі казалі, што 17 лютага або 25 сакавіка будзе «пераломным днём»… Для чаго такая рыторыка? Скажыце сціпла: «Людзі, давайце выйдзем змагацца за свае правы!» Бо такое шапказакідальніцтва мае адваротны эфект: людзі ж бачаць, што не адбылося пералому.

Я не хацеў у гэтым удзельнічаць, бо разумеў, што з такімі пасыламі людзей наўпрост выкарыстоўваюць.

***— Пратэсты гэтай вясны — заслуга апазіцыі?***

— Нікога нікуды апазіцыя не вывела. Незалежна ад таго, ці выехаў бы Севярынец, якога я вельмі паважаю, у Оршу, ці не, усё адно выйшла б тая тысяча чалавек. Добра, што ёсць заклік у СМІ, у сацсетках, палітыкі заклікалі, але ж вывела людзей на вуліцу не апазіцыя, а ўлада — сваімі дзеяннямі.

Было адно пытанне: ці апазіцыя выкарыстае гэтыя пратэстны патэнцыял? Не выкарыстала. Калі ў Мінску 17 лютага было 3000–5000 чалавек і 2 бел-чырвона-белыя сцягі, дык узнікае пытанне да арганізатараў: чаму вы нават сцягі не маглі раздаць?

***— Якія вынікі сёлетняй «гарачай вясны»?***

— Канешне, пазітыўныя. Тысячы людзей па ўсёй Беларусі абсалютна нечакана — і для апазіцыі, і для рэжыму — выйшлі на вуліцы. Гэта яскравае Божае дзеянне, якое паказвае, што грамадства абуджаецца. Мне і Курапаты пра гэта засведчылі. Я памятаю абарону 2001 года, калі галоўным пытаннем была ежа: абаронцам не было чаго есці. Хоць усе газеты пра гэта пісалі! Сёлета ж у нас было ўсё, пра што б мы ні папрасілі: ежа, генератар, намёты і г.д.

> **19-гадоваму Арцёму Леўчанку даюць дакумент, згодна з якім ён з 2011 года рыхтаваў «масавыя беспарадкі». Ён кажа: «А нічога, што мне тады 14 гадоў было?» А яны: «Гэта ж проста лічбы»**

Мне вельмі спадабалася, як у Курапатах сказала адна паненка: «Сёння тут фармуецца грамадзянская супольнасць Беларусі». Я на трэція суткі маліўся, каб нас «зачысцілі», бо шэсць чалавек было, а на наступны дзень — іншая рэальнасць. Сотні людзей прымусілі долараваых мільянераў, нягледзячы на пазіцыю Мінгарвыканкама, спыніць будоўлю.

Тое ж з кампаніяй салідарнасці, калі пачаліся рэпрэсіі. Дзясяткі тысяч ахвяраваных долараў, дапамога ў розных формах. Грамадства дэманструе, што можа за сябе ваяваць і падтрымліваць сваіх.

***— Грамадства пасталела?***

— Так, абсалютна. Гэта ўжо грамадзянская супольнасць, яна фармуецца тут і зараз. І колькі б Лукашэнка ні казаў, які добры ў яго дэкрэт, людзі выйшлі — і ён яго «замарозіў», фактычна адмяніў. Артыкул 193-1, за які судзілі маладафронтаўцаў, таксама фармальна не адмянялі, але нас па ім больш не судзяць. І калі ты ў твар чэкістам кажаш, што свядома яго парушаеш, яны табе нічога не могуць зрабіць.

І каб зараз людзі не выйшлі і не сказалі: «Мы не будзем плаціць», хто ведае, магчыма, заўтра нам бы на паветра ўвялі падатак. Нам здаецца, што гэта абсурдна, але ці не абсурдна ўводзіць падатак на беспрацоўе? Але ўлада зразумела, што ёсць людзі, якія не дазволяць лічыць сябе быдлам.

***— Пратэст у Курапатах скончыўся, што далей?***

— Была праблема — мы яе вырашылі. Зараз усе спрачаюцца пра ахоўную зону, мемарыял… У любым разе, гэта перамога: будоўлю спынілі, а тэма ўзнятая на найвышэйшы ўзровень. Ёсць інфармацыя, што дзяржава ўжо вырашае, як пазбавіцца ад «Бульбаш-холу», які там дагэтуль пусты стаіць.

Мяркую, што дзяржава ўжо не будзе лезці ў ахоўныя зоны. Не ведаю, які там будзе мемарыял, але галоўнае, каб улады не нашкодзілі. Не будуць лезці, кінем вокліч, людзі збяруць колькі трэба грошай на крыжы. Крыжы — гэта найлепшы мемарыял, які сімвалізуе памяць па нявінна забітых ахвярах. Было б добра, каб усе дзеянні дзяржавы там адбываліся пад кантролем грамадства.

***— Вяртаючыся да «Справы патрыётаў»: як можна дапамагчы тым, хто дагэтуль за кратамі?***

— Трэба маліцца, пісаць, дапамагаць сем'ям. Шмат што таксама залежыць ад СМІ, публічных людзей, палітыкаў, блогераў. Цалкам зразумела, што гэта надуманая фэйкавая справа. Калі б у сілавікоў была нейкая фактура, яны б яе выкарысталі.

Што маем на дадзены момант? Джып, які прыляцеў «з космасу» і матэрыялізаваўся на нейтральнай паласе беларуска-ўкраінскай мяжы. Фэйкавая ўлётка пра «пусканне крыві 25 сакавіка», якая запускалася ў сацсетках нібыта ад імя легіянераў. Перадачы БТ пра арматуру ў лесе пад Асіповічамі… Што, у Мінску мала базаў, якія табе арматуру ў любую хвіліну дня і ночы нарэжуць? Няма фактуры. А што ёсць? Генералы, якія ўжо паклалі пагоны на гэтую справу, таму і выдумляюць страшылкі.

***— Ты не бачыш сябе палітыкам, а кім?***

— Я бачу сябе змагаром. Калі кажуць пра сур'ёзных палітыкаў — гэта смешна. Трэба аб'ектыўна ацаніць свае сілы і рухацца: спакойна, без пантоў і прэтэнзіяў на месіянства, без шапказакідальніцтва. Апошнія пару гадоў мы гэтым займаліся, і грамадства гэта ацаніла. У мяне няма самамэты ва ўладзе ці пасадах. Мы імкнёмся рабіць тое, што можам. Адказваць на тыя выклікі, якія стаяць перад грамадствам: так рабілі з «Ваяром», са сцягам, з Курапатамі.

Хто ведае, якія выклікі будуць заўтра? Пра гэта трэба думаць, на гэта рэагаваць. А ўсе хочуць адразу адказу на пытанне: «Як зрынуць рэжым Лукашэнкі?» Мы 20 гадоў шукалі адказ на гэтае пытанне, толькі гэтым займаліся, казалі, што за намі стаяць тысячы… Чамусьці, не зрынулі дагэтуль. Усё ж проста: даўным-даўно трэба было вельмі крытычна ацаніць свае сілы і працаваць.

Вікторыя ЧАПЛЕВА

# «Нібыта і не было гэтай катастрофы...»

**На забруджаным радыяцыяй кавалку Гомельшчыны — напаўпамерлыя вёскі. Напаўзруйнаваныя хаты, з якіх нясмела, нібыта чагосьці баючыся, выходзяць тыя, хто перажыў ці перажывае рак шчытападобнай залозы, коснага мозгу ці крыві.**



Мужчына з адсутнымі вачыма пасе качак. Светлая ўсмешка падлетка з ДЦП. Слёзы амаль бяззубай маці з абматаным зялёнай анучай жыватом (пасля аперацыі), якая ледзь цягае ногі, — яе сын змагаецца з ракам ужо 16 гадоў.

Дзясяткі твараў. Змучаных і пакутлівых. Яны не плачуць, калі расказваюць пра хваробу. Да яе яны прызвычаіліся. Як і да смерці, якая нібыта спадарожніца. Яны надрывіста пачынаюць рыдаць, калі просіш узгадаць 1986-ы — час, калі яны былі дзецьмі.

«Я толькі зараз змагла. Прайшло 30 гадоў, а я толькі зараз змагла паехаць у сваю родную памерлую вёску», — сказала адна жанчына. Яна прыйшла ў хустачцы, кажа, што валасы выпадаюць ужо другі раз: «Муж здзірае з мяне гэтую хустку. А я не магу без яе».

Яны былі дзецьмі, калі адбылася катастрофа на Чарнобыльскай АЭС. А хтосьці з іх тады нават не нарадзіўся, але «носіць з сабой» рак шчытападобнай залозы, які Міндароўя афіцыйна прызнае звязаным з Чарнобылем.

Валянціна Смольнікава — педыятр, супрацоўнік Дабрачыннага аб'яднання Фонду «Дапаможам дзецям Чарнобыля» — шмат гадоў таму прыняла рашэнне: трэба рабіць тое, што можа. Дзякуючы яе працы тысячы дзяцей выязджаюць на аздараўленне за мяжу. А сотням дзяцей яна дапамагае даставаць медыкаменты, вазкі, прадукты харчавання праз замежных спонсараў.

***— Валянціна Фёдараўна, няўжо тым, хто нараджаецца сёння, гэта пагражае? Мясціны ж, кажуць, ужо чыстыя?***

— Калі мы працавалі ў паліклініцы, мы бачылі гэтую хлусню. Мы бачылі, як вырывалі з амбулаторных картак даследаванні дзяцей і дарослых. Вырывалі ўсё, што тычылася назапашвання радыенуклідаў у арганізме і даследаванняў шчытападобнай залозы. І кожны раз нам гэтым прабівалі сэрца.

***— Пасля катастрофы на АЭС дактары хавалі, што ў пацыентаў — рак?***

— Тады нельга было казаць пра рак. Дзямідчыкі (Яўген і Брый — бацька і сын — беларускія хірургі, якія рабілі аперацыі пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. — аўт.) адны з першых сталі казаць праўду дзеля ўратавання чалавека. Яны казалі шчыра, што ў цябе — рак. Іншыя казалі: у цябе не ўсё ў парадку, трэба праверыцца, падлячыцца... У мяне таксама быў рак ныркі. Прааперавалі — жыву. А калі б пра яго не сказалі, так і не пайшла б далей абследавацца.

***— Пасля катастрофы прайшло трыццаць гадоў, можа ўжо можна супакоіцца?***

— Я заўжды даказвала, што дзецям, падлеткам і цяжарным жанчынам ні ў якім разе нельга дапускаць радыенукліды ў арганізм. Гэта дасюль небяспечна і будзе небяспечна яшчэ вельмі доўга.

Трэба шукаць спосабы, якія б выключалі іх трапляннe ўнутр. Але для гэтага трэба ўкласці ў людзям у галовы патрэбную інфармацыю. Таму мы вырашылі пайсці іншым шляхам. Мы сталі адпраўляць дзяцей за мяжу. Дзеці да паездкі на аздараўленне абследаваліся на выязных СІЧах (прыбор, які вымярае радыяцыю ў арганізме чалавека. — аўт.). І ў першыя гады пасля катастрофы мы бачылі, што дзяцей з нулём амаль не было. А пасля аздараўлення ўзровень назапашанай радыяцыі змяншаўся. Але як толькі дзеці вярталіся да звыклага жыцця ў сваіх мясцінах — зноў усё вярталася.

Мы штогод абследуем дзяцей ва ўзросце 10–12 гадоў, і фактычна ўсе яны выязджаюць на аздараўленне з радыяцыяй у арганізме! Гэта трэба ведаць, разумець, трэба пра гэта казаць.

***— Ці можна сёння нейкім чынам масава даводзіць інфармацыю пра вашы вынікі даследаванняў?***

— Мы зрабілі першы радыяцыйны маніторынг у 2002 годзе. Тады нас нават пускалі з лекцыямі ў школы. Мы адукавалі больш за тысячу дзяцей, далі рэкамендацыі па радыяцыйнай абароне. Мы навучылі чатырох настаўнікаў, каб тыя праводзілі такую працу сярод вучняў. Усё гэта ў той час рабілася па дзяржаўных замовах. А пасля даследаванні схавалі пад сукно.

Калі ў наступны раз я пісала заяву ў райвыканкам з просьбай працягнуць даследаванні, то мне адказалі, што ў гэтым няма неабходнасці, бо ў раёне пастаўлены тры прыборы СІЧ, таму немэтазгодна праводзіць яшчэ адно даследаванне. І па гэтых СІЧах вылічваецца калектыўная доза радыяцыі. Па афіцыйных дадзеных, доза не выходзіць вышэй за 1 мілізіверт на год. Прадукцыя выходзіць нарматыўна чыстая, таму яна ідзе на знешні рынак.

***— Адкуль вы бераце дадзеныя па захворваннях дзяцей у раёне?***

— У забруджаных раёнах Беларусі пры паліклініках створаны спецыяльныя рэгістры, дзе назіраюцца ліквідатары, перасяленцы, людзі, якія маюць наступствы Чарнобыльскай катастрофы. Да 2015 года па нашых запытах нам давалі інфармацыю пра стан здароўя насельніцтва, нараджальнасць, смяротнасць, захворванні. У мінулым годзе мы з маім сябрам-доктарам паехалі ў Берлін, дзе ён на канферэнцыі агучыў інфармацыю па раённых рэгістрах. Пасля гэтага нам перасталі даваць інфармацыю, хаця яна — не дзяржаўная таямніца.

***— Людзі пра свае хваробы кажуць абсалютна спакойна. Няўжо яны настолькі звыклі да гэтай безвыходнасці?***

— У людзей няма выбару. Тут жудаснае беспрацоўе, асабліва ў гэтай вёсцы. Ім трэба неяк жыць, многія едуць працаваць у Расію. Некаторыя выконваюць дробную працу самотным старым, і за гэта атрымліваюць нейкія капейкі. Тут пануе нявызначанасць, і прасвету не бачна. Людзі ходзяць у лес па грыбы і сеюць там, дзе нельга сеяць. Яны мусяць есці тое, што вырошчваюць, а інакш — памруць з голаду. А тыя, хто мае інваліднасць, адмаўляюцца ад яе, каб павялічыўся шанец знайсці працу.

У першыя гады пасля катастрофы мясцовае быдла было знішчана, і зараз жывёл фактычна не разводзяць — няма чым карміць. У Дзербічах і Рагіні жылі самыя «брудныя» (забруджаныя) людзі. Па-першае, канечне, была забруджаная тэрыторыя. А па-другое, было шмат паляўнічых. Яны прыносілі забітых жывёл, якіх ела ўся сям'я. Былі каровы. Калі ў дзяцей высвятляўся вялікі ўзровень радыяцыі, адразу правяралася малако. Калі малако забруджанае, дык разбіралі карову на мяса. Узамен сям'і давалася іншая карова. Памятаю, у сям'і адной дзяўчынкі была карова. У дзяўчынкі быў высокі ўзровень радыяцыі. Карову памянялі, а дзяўчынку пасылалі лекавацца ў Іспанію. Узровень радыяцыі дагэтуль у яе не спаў, хоць яна ўжо дарослая і жыве ў Буда-Кашалёве.

***— Якім чынам у мясцовых выяўляюць хваробу?***

— Раней у насельніцтва былі рэгулярныя праверкі. Але моцы апаратаў не хапала, каб праверыць усіх. Таму цяпер правяраюць дзяцей, якія ідуць у школу, і школьнікаў — бліжэй да старэйшых класаў. Хлопцаў правяраюць, калі тыя ідуць у войска. А дарослых — як атрымліваецца. Таму шмат хто жыве, носіць рак — і не ведае пра гэта.

***— Рак не заўжды прызнаецца як хвароба, якая звязаная з Чарнобылем?***

— Так, гэта праўда. Вёскі зараз нібыта сталі чыстымі. Захворванні, якія звязваюцца з Чарнобылем, вызначаюцца Міндароўя, і гэты спіс часта мяняецца. Але рак шчытападобнай залозы афіцыйна прызнаны захворваннем, звязаным з аварыяй на ЧАЭС. Толькі ўсё гэта індывідуальна і часам суб'ектыўна. Пры жаданні можна знайсці прычыны, каб адмовіць.

***— Ці становіцца меншым узровень радыяцыі ў арганізмах людзей?***

— Ён стаў меншым, і нас супакойваюць, бо паўраспад амаль прайшоў. Але ёсць тыя элементы, якія з'явіліся пасля распаду. Нашы апараты пры праверцы іх проста не ўлоўліваюць! Мы іх не вывучалі. А калі ты чагосьці не ведаеш, дык становішся безабаронным.

***— Некаторыя праблемы можна было б вырашыць. Чаму імі не займаюцца?***

— Вельмі шмат залежыць ад палітычнай волі! Просты прыклад: у Савецкім Саюзе рэлігія была забароненая. Па-сутнасці, людзі забыліся, што гэта такое. Зараз жа людзі натоўпам ходзяць у храм, святарам можна хадзіць і па школах, і адпраўляць службы... Бо на гэта ёсць палітычная воля. Калі б такая палітычная воля была і на Чарнобыль, то праз якія-небудзь дзесяць гадоў навукоўцы б распрацавалі новыя тэхналогіі па барацьбе з радыяцыяй. Толькі ў гэта, у адрозненне ад рэлігіі, варта ўкладаць грошы. Шмат грошай...

У гэтай галіне абсалютна нічога не робіцца і не вывучаецца. Чарнобыль пахаваны і закапаны. Нібыта і не было гэтай катастрофы. Толькі чамусьці захворванняў ад гэтага не становіцца менш.

***— Што дапамагае знізіць узровень радыяцыі ў дзіцячых арганізмах?***

— Канешне, абавязкова трэба есці чыстыя прадукты і піць больш чыстай вады. А яшчэ вельмі важна рухацца. У нас дзеці мала рухаюцца: дома яны сядзяць за кампутарамі, у школе — за партамі. Нават пасля звычайных летнікаў, дзе дзеці ўжываюць чыстую ежу і шмат рухаюцца, узровень радыяцыі скарачаецца амаль напалову. Але важны фактар для аздараўлення — гэта любоў. У якой бы краіне ні адпачывалі нашы дзеці, іх паўсюль вельмі добра прымаюць і любяць.

Дзеці плачуць, калі адтуль з'язджаюць. Нават мой унук, якога мы не абдзяляем любоўю, пасля таго, як вярнуўся, са слязьмі запытаў: «Чаму мы жывем не так, як яны?»

***— Ці адпраўляе дзяржава чарнобыльскіх дзяцей на аздараўленне?***

— Не так даўно я прасіла ў райвыканкаме дакументы, па якіх накіроўваюцца на аздараўленне чарнобыльскія дзеці. У першых шэрагах ідуць дзеці з бедных, малазабяспечаных і шматдзетных сем'яў. Пасля — дзеці, бацькі якіх працуюць у сілавых структурах. І толькі пасля ў чарзе на аздараўленне стаяць дзеці, узровень радыяцыі якіх перавышае ўсіх астатніх.

***— Вас з любоўю тут называюць «Грамадская бабуля». Вы дзясяткі гадоў займаецеся наступствамі Чарнобылю. Макс, ваш нямецкі партнёр, жартаўліва сказаў мне, што ваш тэлефон напэўна і па начах разрываецца... А вам ужо восьмы дзясятак ідзе. Чаму вы ўсё гэта робіце?***

— Гэта — частка нашага жыцця. У 1986 годзе я магла б адсюль з'ехаць. Але на ўвесь раён засталося толькі чатыры педыятры! Аддзяленне на 30 ложкаў, ФАПы, два ўчасткі, рэгістр... Паспрабуй тут з'едзь! Я ж не ведала тады, што так усё будзе. Нават падумаць не магла, што будзе праца ў фондзе. А зараз не магу падвесці замежных партнёраў, дзякуючы якім нашы дзеці аздараўляюцца.

Мы робім толькі тое, чаму навучыліся з даўніх часоў. І ведаеце, добра, што хаця б гэта робіцца. Мінулае мы ведаем. Сучаснае ведам. А будучыню — не. У мяне такое адчуванне, што нам так і трэба. Бо мы не пакаяліся. Бо адной рукой у царкве свечкі ставім, а другой — ствараем зброю, якая можа паўтарыць Чарнобыль. Атамная пагроза — гэта вельмі страшная пагроза. Я не бачу будучыню. Адказаць на глабальнае пытанне «што нам рабіць?» я не магу, бо не бачу выйсця.

***

«Трэба працягваць жыць», — сказала на развітанне маладая шматдзетная маці, якая перажыла рак шчытападобнай залозы.

На падворку дому адной сям'і, дзе муж, жонка і дачка хварэюць на рак, зараз квітнее абрыкос. Глядзіш на яго — і разумееш: сапраўды, іншага выйсця, акрамя як жыць, у гэтых людзей няма. Каб і наступнай вясной пабачыць, як квітнее абрыкос на тваім падворку.

**Фота Арцёма Лявы**

Аляксей ХАРКЕВІЧ

# Вышэйшая адукацыя: рэформа ці праца над памылкамі?



**Вышэйшая адукацыя — адна з тых сфер, якую найбольш крытыкуюць у беларускім грамадстве.**

У старэйшага пакалення, выхаванага ў часы Савецкага Саюза, і цяпер наяўнасць дыплома аб вышэйшай адукацыі асацыюецца з магчымасцю рэалізацыі паспяховай кар'еры і высокім заробкам. Яшчэ два дзесяцігоддзі таму наяўнасць вышэйшай адукацыі прадугледжвала больш высокі сацыяльны статус яе ўладальніка. Гэтыя часы сышлі ў мінулае. Падрыхтоўка спецыяльнасцяў не адпавядае патрабаванням рынку, узровень ведаў студэнтаў імкліва падае, каштоўнасці дыплома пры пошуку месца працы знізіліся — вось далёка не поўны пералік праблем, якія стаяць перад вышэйшай адукацыяй.

На першы погляд можа здацца, што ўсе гэтыя праблемы слаба звязаныя адна з адной і з'яўляюцца непазбежнымі выдаткамі адаптацыі старой савецкай сістэмы адукацыі да новых рынкавых умоваў. Аднак больш пільны аналіз сітуацыі паказвае, што ўсе складанасці, якія ўзнікаюць, з'яўляюцца следствам аднаго і таго ж працэсу, які мы назіралі на працягу больш чым дзесяці гадоў. Гэты працэс наглядна ілюструюць статыстычныя дадзеныя, прадстаўленыя на малюнку.

Калі колькасць вышэйшых навучальных установ за 14 гадоў скарацілася на 12%, дык колькасць студэнтаў за дзесяцігоддзе — з 2002 да 2012-га — вырасла амаль у паўтара разы. Пазнейшае зніжэнне колькасці студэнтаў было выклікана зусім не зменай палітыкі, а толькі ўваходжаннем краіны ў чарговую дэмаграфічную яму. Тых, хто здольны быў вучыцца ў ВНУ, у Беларусі папросту не засталося.

У выніку з пачатку XXI стагоддзя ахоп моладзі вышэйшай адукацыяй вырас амаль у два разы. У 2014 годзе, паводле дадзеных ЮНЕСКА, у Беларусі колькасць студэнтаў па суадносінах да колькасці насельніцтва адпаведнага ўзросту склала 91,5%.

Яшчэ на стыку стагоддзяў колькасць выпускнікоў вышэйшых навучальных установаў была ў 3 разы меншай за колькасць выпускнікоў сярэдніх школ. У выніку ВНУ атрымлівалі магчымасць адбіраць найбольш таленавітых і здольных маладых людзей. Тыя, хто не адпавядаў крытэрам адбору, маглі працягнуць навучанне ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах. І нават там месца хапала далёка не кожнаму.

У 2013 годзе тое, да чаго няўхільна ішла сістэма адукацыі ў апошнія дзесяцігоддзі, нарэшце адбылося. Упершыню ў гісторыі Беларусі колькасць выпускнікоў установ вышэйшай адукацыі перавысіла колькасць выпускнікоў сярэдніх агульнаадукацыйных школ.

### Якасць як ахвяра палітычнай стабільнасці

Для чаго ж спатрэбілася рабіць вышэйшую адукацыю максімальна масавай?

Адна з прычын у кулуарах Міністэрства адукацыі была сфармуляваная досыць выразна: для процідзеяння хвалі каляровых рэвалюцый неабходна ўсталяваць кантроль над максімальна вялікай часткай прагрэсіўнай моладзі, якая традыцыйна складае найбольшую частку пратэстнага электарату.

Задача выконвалася двума шляхамі. З аднаго боку, былі больш жорсткія патрабаванні ліцэнзавання для ВНУ — у выніку колькасць установ вышэйшай адукацыі скарацілася на 5 адзінак. А з другога — ВНУ, якія прайшлі ліцэнзаванне, атрымалі магчымасць павялічыць планавы набор студэнтаў. Для гэтага многія дзяржаўныя ўніверсітэты сталі актыўна прапаноўваць няпрофільныя, але папулярныя сярод абітурыентаў спецыяльнасці, такія, як эканоміка, права, камунікацыі. У выніку на гэтых спецыяльнасцях стала навучацца больш за 40% усіх беларускіх студэнтаў.

Для рэалізацыі пастаўленай задачы вельмі дарэчы аказалася распрацаваная сістэма цэнтралізаванага тэставання. Цэнтралізаванае тэставанне мае на ўвазе

# Якіх выпускнікоў забяруць працадаўцы?

Фаіна НАКАНЕЧНАЯ

**Як вядома, маладому спецыялісту без досведу працы ўладкавацца на добрую вакансію складана. І працоўная канкурэнцыя ў краіне вельмі вялікая. Што чакае рынак працы ў 2017 годзе?**

### Праца, якая ёсць заўсёды

Пакуль што сітуацыя не надта адрозніваецца ад мінулагодняй. Найбольш запатрабаванай сярод працадаўцаў застаецца сфера продажу. Заўсёды патрэбныя спецыялісты, якія наўпрост прыносяць прыбытак кампаніі. Напрыклад, работнікі кол-цэнтраў, кансультанты па набыцці тавараў. На рынку гэта 30,4% ад усіх прапаноў. На другім месцы беларускія эксперты адзначаюць тыповую для нашай краіны сферу інфармацыйных тэхналогій. Тут цікавасць праяўляюць 14% ад усіх працадаўцаў.

У 2017 годзе каля 36,5 тысячы былых студэнтаў і маладых спецыялістаў без вопыту працы будуць шукаюць прапановы праз спецыяльныя сайты. Часта яны не разглядаюць першую спецыяльнасць па рэйтынгу запатрабаванасці ў працадаўцаў. А на другую не хапае кваліфікацыі або атрыманага дыплома.

Нягледзячы на тое, што ў 2016 годзе, у параўнанні з 2015-м, колькасць вакансій павялічылася, эксперты не прагназуюць памяншэнне канкурэнцыі сярод выпускнікоў ВНУ. «Барацьба за вакансіі будзе заставацца высокай. Рыхтуйцеся, вы (выпускнікі ВНУ) — у складанай сітуацыі», — зазначыла дырэктар РАБОТА.TUT.BY Святлана Шапорава.

Эксперт адзначае, што ў такой барацьбе 75% працадаўцаў гатовыя даваць былому студэнту заробак да сумы, якая крыху перавышае 900 рублёў. Сярэдняя прапанова па рынку — 470 рублёў. Але нават за 200–250 долараў маладому спецыялісту трэба будзе пазмагацца.

### Што працадаўцу не падабаецца ў выпускніках?

Сярод тых якасцяў, якія б працадаўцы не хацелі бачыць у выпускнікоў, эксперты адзначаюць завышаныя патрабаванні да працы і неадэкватныя амбіцыі былых студэнтаў.

— Нікому зараз не падабаецца прынцып выпускнікоў: «Хачу ўсё і адразу». Суіскальнік нічога яшчэ не зрабіў для працадаўца — гэта значыць, знаходзіцца ў нулявой кропцы. І кампаніі не зразумела ці будзе ад яго карысць, ці не. Таксама дрэнна, калі чалавек кажа: «Дайце мне любую справу, а я заўтра яе выканаю». Вар'яцкі энтузіязм гэтак жа шкодны, як і поўная пасіўнасць, — адзначае HR-дырэктар «Альфа-Банка» (Беларусь) Сяргей Прыходзька.

Таксама памылка на сумоўі — поўная адсутнасць ведаў пра арганізацыю. Некаторыя часцяком шукаюць працу — і нават не зазіраюць на сайт працадаўцы.

— Малады спецыяліст для нас, асабліва той, хто прыходзіць па размеркаванні, — гэта кот у меху. Згодна з нашым заканадаўствам, мы без выпрабавальнага тэрміну складаем з ім дамову на два гады, — канстатуе Сяргей Прыходзька.

Каб адсейваць нематываваных, працадаўцы, па-першае, прыслухоўваюцца да меркавання прафесарска-выкладчыцкага складу ВНУ. А па-другое, выкарыстоўваюць спецыяльную дыягностыку — тэхналогію Перфарміі. Гэтая сістэма дзеянняў, якая дазваляе ацэньваць асобу-партрэт чалавека ў калектыве. Яе вынік аказваецца дакладным на больш чым 90%.

### Як павысіць свой кошт на рынку працы?

Каштоўнасць любога чалавека вызначаецца той карысцю, якую ён стварае для кампаніі. Каштоўнасць складаецца з трох паказчыкаў: кошт памылак, кошт навучання, кошт адцягнення калегаў.

Маніторыць іх бывае складана для любой кампаніі.

— Калі казаць пра кошт памылак: можна так нарабіць шкоды, што мільён долараў адправіць не таму кліенту. І потым гэтага кліента ты ніколі не знойдзеш. А што тычыцца кошту адцягнення калегаў, то за кожным пачаткоўцам замацоўваецца настаўнік. А калі чалавек марнуе шмат свайго часу, з'яўляецца страчаная выгада або грошы для працадаўцы, — распавядае Прыходзька.

Сярод якасцяў, якія чакае працадаўца, эксперты адзначаюць: кліентаарыентаванасць, ініцыятыўнасць, гнуткасць і навучальнасць.

— Галоўнае — гэта кліентаарыентаванасць. Адзіная крыніца рэсурсаў для таго, каб рэалізаваць сваю мару, — кішэня кліента. Як бы мы ні хацелі, іншых рэсурсаў у нас няма. Натуральна, кліент выбірае, колькі з кішэні дастаць грошай. Рашэнне ён прымае пасля размовы з супрацоўнікам кампаніі. Усе маладыя спецыялісты пачынаюць, напрыклад, з кліенцкага менеджменту, гэта значыць, са спецыялістаў нізавых узроўняў. Таму толькі ад гэтага спецыяліста залежыць, ці застанецца кліент задаволены. А вось навучальнасць — гэта прыродны навык. Калі ў чалавека няма здольнасці да навучання, папросту ён абмежаваны, вы, як працадаўца, нічога з ім не зробіце, — кажа эксперт.

У цэлым працадаўцы прытрымліваюцца правіла: мы гатовыя інвеставаць у супрацоўніка, калі ён гатовы развіваць свой патэнцыял і ствараць каштоўнасць для бізнесу.

Але што гэта значыць на практыцы?

Першае правіла: самаакупнасць супрацоўніка павінна наступіць не пазней як праз тры месяцы. Калі гэты тэрмін прайшоў, а былы студэнт так і застаўся тэарэтыкам, больш за 95% працадаўцаў з ім развітаюцца.

Другое правіла: кампанія вам нічога не павінна. У гэтым канкрэтным выпадку працуюць уваходны і выходны патокі з тэхналогіі Перфарміі.

Уваходны паток — гэта той суіскальнік, што ў першую чаргу на сумоўі задае пытанне пра заробак, ільготы, кіруючыя пазіцыі, але не мае досведу працы. То бок, у яго мноства таго, што ён хоча. Чалавек настроены на тое, каб узяць з кампаніі максімум, даючы ёй мінімум.

выкарыстанне 100-бальнай шкалы. Да пэўнага моманту станоўчай ацэнкай лічыўся нават 1 бал, атрымаць які можна было выпадкова. Акрамя таго, да ўступных іспытаў дапускалі абітурыентаў, якія маюць у атэстаце адзнакі ніжэй за 3 балы. У выніку створаная на гэтым этапе сістэма прыёму дапускала, што паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову зможа практычны кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, які мае сярэднюю адукацыю, незалежна ад наяўнасці ў яго пэўнага багажу ведаў.

Абітурыенту давалася магчымасць прайсці цэнтралізаванае тэставанне толькі па трох выбраных прадметах. Такім чынам, выключалася магчымасць падачы дакументаў на спецыяльнасці, якія прадугледжваюць розныя дысцыпліны цэнтралізаванага тэставання. Напрыклад, абітурыенты, якія плануюць паступаць на правазнаўства і якія здавалі тэст па грамадазнаўству, гублялі магчымасць падаць дакументы на іншыя спецыяльнасці. Такая сітуацыя вымушала многіх абітурыентаў выбіраць для паступлення найбольш распаўсюджаныя спецыяльнасці, што давала магчымасць у выпадку непраходжання па конкурсе ў адной ВНУ падаваць дакументы на паступленне на гэту спецыяльнасць у іншую ВНУ з меншым конкурсам. Такім чынам у чарговы раз падсцёбваўся попыт на папулярныя эканамічныя спецыяльнасці, нягледзячы на прагназуемыя складанасці з наступным працаўладкаваннем.

Неадкладная палітычная задача, пастаўленая перад сістэмай вышэйшай адукацыі ў перыяд каляровых рэвалюцый, была паспяхова вырашана. Аднак праз гады наступствы прынятых мер негатыўна адбіліся на беларускім рынку працы.

## Наступствы для рынку працы

Недальнабачная палітыка ў сферы вышэйшай адукацыі балюча ўдарыла па самой жа сістэме адукацыі. Авалоданне педагагічным майстэрствам, каб «сеяць разумнае, добрае, вечнае», уяўляецца сумнеўнай перспектывай для цяперашняга пакалення абітурыентаў. Таму найменшай папулярнасцю сярод абітурыентаў у апошні гады сталі карыстацца менавіта педагагічныя спецыяльнасці.




**Імкненне сабраць ва ўніверсітэце як мага больш моладзі аказалася мінай запаволенага дзеяння. Моладзь выйшла з ВНУ і патрабуе працы паводле кваліфікацыі, чаго ўлады забяспечыць сёння не могуць**




**Колькасць ВНУ і студэнтаў у Рэспубліцы Беларусь з 2001 па 2017 гады**

У выніку педагагічных кадры шмат гадоў набіраліся паводле рэшткавага прынцыпу. Сёння гэта выклікае вялікую трывогу за цяперашняе пакаленне школьнікаў, што вымушана наведваць заняткі ў настаўнікаў, якія ў свой час і самі не здолелі належным чынам засвоіць школьную праграму па адпаведных прадметах. Пры гэтым важна адзначыць, што навучанне такіх «гора-настаўнікаў» ажыццяўлялася за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту.

У маладых педагагічных работнікаў недастатковая кваліфікацыя, аднак у іх няма вялікіх праблем з працаўладкаваннем. Значна горшая сітуацыя ў выпускнікоў, напрыклад, эканамічных спецыяльнасцяў. Такая колькасць эканамістаў нашай краіне папросту не трэба. Як следства — многіх выпускнікоў у выніку чакала расчараванне, звязанае з немагчымасцю знайсці працу па атрыманым профілі.

У выніку імкненне сабраць ва ўніверсітэце як мага больш моладзі аказалася мінай запаволенага дзеяння. Гэта моладзь выйшла са сцен універсітэта і патрабуе для сябе месца працы паводле атрыманай кваліфікацыі, чаго ўлады забяспечыць сёння не могуць. Адсюль мы бачым прыкметы масавай незадаволенасці, якія выяўляюцца ў маршах раззлаваных беларусаў па ўсёй краіне.

Тыя змены ў сістэме вышэйшай адукацыі, якія адбываюцца сёння, можна назваць працай над памылкамі. Спачатку былі павялічаныя мінімальныя балы, неабходныя для паспяховага праходжання цэнтралізаванага тэставання. Затым ВНУ сталі актыўна скарачаць планавы набор, ахвяруючы ў першую чаргу няпрофільнымі спецыяльнасцямі. Дарэчнай аказалася нават ідэя далучэння да Балонскага працэсу. У прыватнасці, гэта дало магчымасць актыўна развіваць двухпрыступкавую сістэму адукацыі. У выніку ва ўмовах неспрыяльнай дэмаграфічнай сітуацыі, падтрыманне кантынгенту навучэнцаў ажыццяўляецца пераважна за кошт магістрантаў, колькасць якіх за апошнія пяць гадоў павялічылася ў два разы.

Актыўная прапаганда навучання ў магістратуры нясе станоўчы эфект і для рынку працы. Дадатковыя два гады вучобы дазваляюць учорашнім студэнтам менш хваравіта рэагаваць на недахоп працоўных месцаў.

Аднак трэба прызнаць, што змены, якія праводзяцца, дазваляюць крыху палепшыць сітуацыю, але не вырашаюць самой праблемы. Корань жа праблемы палягае ў тым, што вышэйшая школа ўсе гэтыя гады выконвала не столькі адукацыйную, колькі выхаваўчую функцыю. Змены да лепшага магчымыя толькі тады, калі кваліфікаваная праца, заснаваная на якасных ведах і ўменнях, атрыманых ва ўніверсітэце, будзе знаходзіць адэкватнае матэрыяльнае ўзнагароджанне. Пакуль такія перспектывы не прагладаюцца. А значыць, чарговая рэформа можа стаць толькі чарговай спробай імітацыі бурнай дзейнасці.




Малюнак rbg.by

Выходны паток — гэта калі чалавек гатовы нешта даць кампаніі. Працуе прынцып: чым больш аддаеш — тым больш атрымліваеш.

Трэцяе правіла: ставіцца да рэзюмэ сур'ёзна. Былыя студэнты яшчэ арыентуюцца на час, калі быў рынак не працадаўцы, а шукальніка. Таму вялікай увагі рэзюмэ не надаюць, а хутчэй ставяцца да яго як «дадатковай опцыі».

Чацвёртае правіла: многія працоўныя сектары становяцца закрытымі для масавай прапановы. Напрыклад, банкаўская сістэма. Сёння ў гэтым сектары — каля 50 тысяч месцаў на 25 асноўных банкаў і тры нябанкаўскія крэдытныя ўстановы, то бок 4% ад усіх прапанаваных работ. Таму рэакцыя на «закрыты свет» сектара для работнікаў — утрымацца як мага даўжэй.

Даследаванне «Альфа Банка» наконт уцягнутасці супрацоўнікаў у 2016 годзе паказала, што каля 70% працоўных гатовыя застацца ў банку больш за пяць гадоў. Раней паказчык быў — адзін ці два гады (перыяд адпрацоўкі практыкі).

## Што трэба спытаць у працадаўцы на сумоўі?

На сумоўі суіскальніку трэба спытаць у працадаўцы: які прадукт вы ад мяне чакаеце і ці ёсць на гэты прадукт рэсурсы ў кампаніі?

Галоўнае, не напароцца на памылку завышаных патрабаванняў. Для гэтага да сумоўя трэба зайсці на сайт аб пошуку працы і паглядзець аб суадносінах вакансіі і накіраваных на яе рэзюмэ. Калі ёсць адна вакансія, на якую адгукнуліся больш за сто чалавек, то казаць пра высокую зарплату нават не варта.

Другое — «відэлец заробкаў». Карысна пытацца ў працадаўцы пра тое, які мінімальны і максімальны яе памер, то бок, якія заробкі існуюць у кампаніі. Гэта дапаможа зразумець, колькі давядзецца зарабляць на выпрабавальным тэрміне, а колькі ў штаце.

Трэцяе — унікальнасць пазіцыі. Унікальныя пазіцыі аплачваюцца больш высока, чым астатнія.

— Што трэба разумець у ходзе гутаркі? Перш чым задаць пытанне пра заробак, трэба высветліць характар выкананай працы, «відэлец аплаты», і ад чаго будзе залежаць рост зарплаты, — канстатуе Прыходзька.

Пасля гэтага варта запытаць пра сістэму матывацыі і кар'ернага росту. Звычайна ў кампаніях кажуць толькі пра фіксаваную ўзнагароду. У некаторых кампаніях гэтая частка можа быць 30%, а матывацыя — 70%. І тады трэба глядзець на сукупны даход. Часта працадаўца думае, што чалавек завышае патрабаванні. Аднак гаворка можа ісці пра сукупны даход, а працадаўца ў гэты час думае пра мінімальны або фіксаваны аклад суіскальніка.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. Конь або радзіма

Польшчу чакае незвычайны судовы працэс па справе каня па мянушцы Каштанка, які, гледзячы па ўсім, загінуў недзе падчас Другой сусветнай вайны. Перад тым, як пайсці на фронт, той конь належаў сям'і Куляшоў — сялянам, якія жылі пад Беластокам. Калі немцы ў верасні 1939-га атакавалі Польшчу, каня канфіскавалі польскія жаўнеры, выдаўшы гаспадару паперу, паводле якой польская дзяржава абяцае селяніну выдаць кампенсацыю за каня пасля вайны. Паколькі пасля вайны да ўлады прыйшлі камуністы, патрабаваць кампенсацыю не было сэнсу, і хутка пра Каштанку забыліся. І раптам у мінулым годзе 89-гадовы Юліян Кулеш — сын гаспадара Каштанкі, выпадкова знайшоў той дакумент і адразу запатрабаваў ад мясцовай адміністрацыі грошы за канфіскаванага каня. Пры гэтым з дапамогай суседзяў ён зрабіў калькуляцыю — добры конь у 1939-м каштаваў, як сёння нямецкі трактар апошняй мадэлі. Паколькі ўлады адмаўляюцца плаціць за Каштанку, Юліян вырашыў звярнуцца ў рэгіянальны суд.

**Паводле польскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. У «Зорных войнах» перамаглі армяне

Прыхільнікі «Зорных войнаў» адзначаюць 40-ю гадавіну славутай кінасагі. У 1977 годзе свет упершыню ўбачыў міжгалактычныя баталіі, якія зняў рэжысёр Джордж Лукас. З тых часоў армія прыхільнікаў «Зорных войнаў» увесь час расце — у тым ліку і сярод палітыкаў. Так, каментуючы юбілей выхаду карціны Лукаса, армянская прэса звярнула ўвагу на тое, што адзін з самых яркіх персанажаў карціны мае армянскае прозвішча. Гаворка пра Лэнда Калрысіяна, які з'яўляецца ў эпізодах «Імперыя наносіць удар у адказ» і «Вяртанне джэдая». Лэнд па ходзе сюжэта становіцца адным з лідараў паўстанцкага руху і прымае ўдзел у вырашальнай бітве супраць Імперыі. Самае цікавае, што Білі Дзі Уільямс, акцёр, які выканаў ролю паўстанца, сапраўды кажа, што яго персанаж быў бы не такім цікавым без армянскага прозвішча. «Вобраз Лэнда заснаваны на яго армянскім прозвішчы — Калрысіян. Менавіта прозвішча вызначыла характар героя. Я будаваў сваё бачанне ролі на гэтым», — распавёў Білі Дзі Уільямс. На думку акцёра, многія валявыя рысы характару яго персанажа ўвасабляюць дух армянскага народа.

**Паводле армянскай прэсы**

### УКРАІНА. Хто не танчыць, той маскаль!

Дэпутаты Вярхоўнай рады Украіны прызналі нацыянальным відам спорту баявы гапак. Школа баявога гапака будуецца на грунце элементаў традыцыйнага бою запарожскіх казакоў, якія, быццам, захаваліся ў народных танцах, і, перш за ўсё, у гапака. Навіна выклікала шмат іранічных каментараў, перш за ўсё ў расійскіх медыя, дзе акрамя ўсяго заклікаюць грузін стварыць свой варыянт баявога гапака — напрыклад, «баявую лезгінку». Пачаліся спрэчкі гісторыкаў. На думку шматкаго, рэальны казак, які з дзяцінства трэніраваўся і рэгулярна спарынгаваў на шаблях, проста засек бы да смерці любога спецыяліста па баявым гапаку. Між тым, у свеце ёсць аналагі баявых мастацтваў, заснаваныя на танцах: тая ж бразільская капаэйра, дзе аб'яднаныя танец і барацьба. Але найбольш незвычайная крытыка наконт гапака гучыць з боку ўкраінскіх феміністак, якія пабачылі тут замах на правы жанчын. На іх думку, трэба ў прынцыпе перастаць разглядаць рух казакоў як падмурак украінскай дзяржаўнасці праз яго ксенафобскую прыроду. Сапраўды, як вядома, у Запарожскай Сечы дзейнічаў жорсткі рэжым адносна жанчын, якім уваход туды быў цалкам забаронены.

**Паводле ўкраінскай і расійскай прэсы**

### СЛАВАКІЯ. Футбол і вялікая Венгрыя

Славацкі палітыкум занепакоены працэсамі ў мясцовым футболе. Апошнім часам усё часцей на трыбунах клубу FC DAC 1904 з'яўляюцца палітыкі з суседняй Венгрыі, дзе дасюль лічаць Славакію сваёй гістарычнай тэрыторыяй. Тое, што яны сімпатызуюць на адрас FC DAC 1904 — не выпадковасць. Клуб прадстаўляе горад Дунайска Штрэда, дзе жыве шмат этнічных венграў. У выніку пад выглядам падтрымкі FC DAC 1904 фактычна ідзе прапаганда за перагляд так званай Трыянонскай дамовы, паводле якой Венгрыя страціла Славакію ў 1920-м. Кульмінацыяй гэтай агітацыі, безумоўна, стаў мінулы ўік-энд, калі FC DAC 1904 сустракаўся з камандай Slovan (Браціслава), за якую заўзеюць славацкія нацыяналісты. Падтрымаць FC DAC 1904 на стадыён прыехаў нават спікер венгерскага парламенту. Гульня скончылася перамогай FC DAC 1904 і вялікай бойкай паміж фанатамі. Каментуючы матч, прэса ў Будапешце назвала перамогу «трыумфам венграў». Між тым, некаторыя славацкія палітыкі прапаноўваюць незвычайны сродак у барацьбе супраць сепаратыстаў — адпраўляць футбалістаў — этнічных венграў у іншыя каманды Славакіі. У такім выпадку Будапешту будзе больш цяжка выкарыстоўваць футбол у сваіх мэтах.

**Паводле венгерскай прэсы**

# Казахстан ці Qazaqstan?

Алег НОВІКАЎ

**Прапанову Нурсултана Назарбаева аператыўна перавесці казахскую мову на лацінку ў свеце разглядаюць як важную геапалітычную падзею. Аднак нават у самой краіне шмат хто не верыць у гэты праект. Пра прычыны такога стаўлення і некаторыя абставіны рэформы «Новаму Часу» распавядае казахскі мастак Жэніс Аліеў.**




Фота www.fondsk.ru

***— На чым грунтуецца скепсіс тых казахаў, якія не вераць, што ў 2025 годзе (паводле Назарбаева, гэта час заканчэння рэформы) краіна цалкам пяройдзе на лацінку?***

— Па часе перайсці на лацінку за восем гадоў сапраўды рэальна, аднак веданне менталітэту казахскага чыноўніка, а галоўнае — жыццёвы досвед, прымушаюць у гэтым сумнявацца. Гісторыя Казахстана пры Назарбаеве — гэта бясконцая «манілаўшчына», калі праваднікі рэгулярна агучваюцца нейкія мегапраекты. А вось з іх рэалізацыяй атрымліваецца не вельмі. Не выкананая ніводная з абвешчаных дзяржаўных праграм, прычым іх маштабы былі не такія вялікія, як пераход на новы алфавіт. Не кажучы пра тое, што цяперашняя спроба Назарбаева па пераводзе казахскай мовы на лацінку — ужо чацвёртая за часы яго кіравання.

***— Чаму праваліліся папярэднія спробы?***

— Аматары рэформы кажуць, што іх правал звязаны з засіллем так званай «расійскай фракцыі» ў Назарбаеўскім апараце. Аднак ніводнага прозвішча пры гэтым не называюць. Думаю, усе мінулыя спробы праваліліся праз ручны прынцып кіравання краінай. Не паспяваў Назарбаеў анансаваць тую ж рэформу алфавіту, як узнікала нейкая новая медыйная падстава, на якую пераключалася ўвага як самога Елбасы, так і ўсёй яго вертыкалі.

***— Тым не менш, нельга ігнараваць, што зараз сітуацыя іншая. Гаворка пра новую халодную вайну ў свеце, у якой Казахстан выглядае як патэнцыйная ахвяра гібрыднай вайны. Магчыма, у новых умовах эліта будзе вымушаная мабілізавацца на рэформу?***

— Новыя ўмовы — таксама і новая, горшая эканамічная сітуацыя, і большы дэфіцыт рэсурсаў. Для пераходу краіны на лацінку трэба, па розных ацэнках, як мінімум тры мільярды долараў. Ці не лепш пусціць тыя сродкі на сілавыя ведамствы або сацыяльныя праграмы, ад чаго залежыць палітычная стабільнасць, то бок знаходжанне Назарбаеўскага клану пры ўладзе? Пераход на лацінку ва ўмовах стагнацыі дакладна адгукнецца незадавальненнем насельніцтва наконт таго, што грошы ідуць на змену шыльдаў, а не на дарогі або паляпшэнне жыцця людзей. Нарэшце, узнікае пытанне: нашто Назарбаеву інвеставаць у праект, рэалізацыю якога ён асабіста можа ўжо і не пабачыць?

***— Аднак праект накіраваны на тое, каб якраз кансалідаваць грамадства. Пішуць, што моўныя курсы, праз якія давядзецца прайсці практычна кожнаму, дапамогуць казахам адчуць сябе нацыяй, сфармаваць калектыўную адказнасць за будучыню. Маўляў, рэформа будзе штуршком для мадэрнізацыі і руху да большага міжнароднага прызнання дзяржавы.***

— Уся гэта высокая патэтыка лёгка разбіваецца аб прыклад суседняга Узбекістану, дзе цалкам перайсці на лацінку планавалася яшчэ ў 2010-м. У выніку атрымалася не кансалідацыя нацыі, а расколіна паміж старой генерацыяй і маладымі ўзбекамі, якія вывучылі мову ўжо на лацінцы. Газеты, якія не жадаюць губляць старога чытача, ігнаруюць рэформу. Уся ўнутраная дакументацыя вядзецца, як і да рэформы. Наўрад ці падобная алфавітная салянка — сімптом сучаснай мадэрнізаванай дзяржавы. У дадатак, пакуль у Ташкенце няма ні волі, ні рэсурсаў, ні нават ідэяў, як вырашыць праблему. Перад тым, як пачынаць нешта падобнае ў Казахстане, трэба як мінімум вывучыць узбекскі ўрок.

***— Расійская прэса адрэагавала на рэформу Назарбаева вельмі агрэсіўна. «Калі ўрад Расіі не адкажа рашучымі і разумнымі дзеяннямі, то ўвесь рускі свет ляснецца як картачны домік. Усе на абарону рускай славеснасці!» — піша з гэтай нагоды адно з выданняў.***

***А што думаюць рускамоўныя казахі?***

— Шчыра кажучы, большасць жыхароў той жа Алма-Аты, дзе пануе руская мова, рэформа не хвалюе. Рускамоўны сегмент грамадства не чытае казахскамоўных тэкстаў нават на знаёмай кірыліцы, і наўрад ці будзе чытаць іх у іншых варыянтах. Тым больш, што адначасова Назарбаеў запэўніў: руская мова пасля рэформы застанецца адной з афіцыйных. Рускамоўныя баяцца хіба толькі таго, што са спасылкай на рэформу павысяць камуналку і кошты на паліва.

Трэба адзначыць, што большасці этнічных казахаў уласцівая тая ж заклапочанасць. Праблемы алфавіту яўна не на першым месцы ў краіне, дзе, паводле апытанняў, 90 працэнтаў рэспандэнтаў баяцца, што заўтра могуць трапіць у катэгорыю «бедныя». Недаверу нізоў спрыяе і тое, што афіцыёз пачаў нездаровую прапаганду ў падтрымку ідэі Назарбаева аж да таго, што лацінку называюць сродкам у барацьбе з тэрарызмам і эканамічным крызісам.

**Большасць жыхароў той жа Алма-Аты, дзе пануе руская мова, рэформа не хвалюе. Праблемы алфавіту яўна не на першым месцы ў краіне, дзе, паводле апытанняў, 90% рэспандэнтаў баяцца, што заўтра могуць трапіць у катэгорыю «бедныя»**

***— Уявім, што чацвёртая спроба рэформы паўторыць гісторыю папярэдніх. Ці будзе пятая?***

— У гэтым няма сумневаў. Праблема пераходу на лацінку — не штучная. Шмат хто лічыць, што веданне лацінкі дазволіць маладым казахам без комплексаў інтэгравацца ў туркамоўны і англамоўны свет, прасцей шукаць дыялог з кітайскімі аднагодкамі. Таму нельга выключаць, што план Назарбаева — гэта, хутчэй, заяўка на тое, каб трапіць у гісторыю. Хто б заўтра зноў ні пачынаў рэформу алфавіту (у тым ліку гэта могуць быць і цяперашнія апаненты Елбасы), яны так ці інакш будуць выглядаць ідэйнымі паслядоўнікамі «вялікага Нурсултана Абішавіча».

# Невядомая вайна

Алег НОВІКАЎ

**Сто гадоў таму ў Еўропу пачалі прыбываць часткі жаўнераў ЗША, якія ўступілі ў Першую сусветную вайну на баку Антанты. Той паход цалкам змяніў ход гісторыі.**




Фота www.dl.wdl.org

Справа не толькі ў тым, што дапамога з-за акіяну фактычна вызначыла вынік кампаніі, якая цягнулася ўжо тры гады. Нягледзячы на тое, што на заходнім фронце і пасля красавіка 1917-га ўсё заставалася без пераменаў, сам факт з'яўлення амерыканцаў, узброеных аэрапланамі і танкамі, адмоўна паўплываў на псіхалагічны стан у нямецкіх акопах. Як жартавалі ў Францыі, пасля з'яўлення на фронце амерыканцаў кайзер Германіі абвясціў Хрыстафора Калумба ворагам нямецкага народа. Усе так ці інакш зразумелі, што ў Германіі няма шанцаў.

Аднак важней за ўплыў на вайсковы тэатр дзеянняў было тое, што роўна сто гадоў таму пачалася ўнікальная сустрэча цывілізацый. Адбылася інтэнсіўная камунікацыя людзей з рознымі каштоўнасцямі, светапоглядамі, культурнымі забабонамі, што выклікала беспрэцэдэнтныя глабальныя наступствы.

Праўда, часам тыя наступствы былі не самыя вясёлыя. З амерыканцамі ў Еўропу трапіла славутая «іспанка» — пандэмія грыпу, ад якога ва ўсім свеце памер 41 мільён чалавек. Вірус, які ўпершыню зафіксавалі на амерыканскім сярэднім Захадзе, праз навабранцаў трапіў у казармы Канзаса (тут знаходзіўся вялікі зборны пункт), адкуль быў дастаўлены жаўнерамі ЗША праз Атлантыку ў Еўропу. Да негатыву таксама можна аднесці «аўтаномію» амерыканцаў на фронце. Паводле дамовы, яны дзейнічалі самастойна на сваёй частцы фронту, што часам прыводзіла да хаосу і да буйных чалавечых стратаў.

Затое амерыканскія салдаты, а дакладней, музычныя гурты пры іх фарміраваннях, пазнаёмілі еўрапейцаў з джазам. Цяжка пераацаніць кошт таго падарунка для еўрапейскай культуры. Гэта музыка — сімвал экспрэсіі і свабоды, моцна паўплывала на культурны еўрапейскі працэс. Амерыканцы таксама пазнаёмілі Еўропу з баскетболам.

Цяпер — пра наступствы паходу ў Еўропу для ЗША. Адразу трэба прызнаць, што і без культурнага абмену з еўрапейцамі Злучаныя Штаты пасля абвяшчэння вайны радыкальна змяніліся. Дастаткова ўзгадаць, што ў красавіку 1917-га фактычна нарадзіўся вядомы вобраз Дзядзькі Сэма. Тады пачалася мабілізацыйная кампанія, у межах якой быў надрукаваны славуты плакат з выявай Дзядзькі Сэма і подпісам: «I want you for US army» («Ты мне патрэбны ў армію ЗША»). За год такіх плакатаў надрукуюць каля 20 мільёнаў экземпляраў.

У якасці кур'ёза трэба ўзгадаць, што тады ж нарадзілася іншая «духоўная скрэпа» Амерыкі. Кампанія Coca-Cola атрымала замову на пастаўкі напояў у войска, дзе служылі прадстаўнікі з усіх куткоў краіны. Так у ЗША даведаліся, што існуе «шыпучка» Coca-Cola.

Па сутнасці, паход у Еўропу быў бенефісам ЗША на сусветнай арэне. Хаця раней Злучаныя Штаты паспелі паваяваць з Іспаніяй за Кубу і Філіпіны і ўлезці ва ўнутраныя справы шэрагу лацінаамерыканскіх суседзяў, глабальна яны выглядалі слаба. Уся армія Дзядзькі Сэма была роўная па колькасці арміі Бельгіі (170 тысяч чалавек). Аднак ужо праз паўтара гады, напрыканцы вайны, у розных службах войска ЗША былі занятыя каля 5 мільёнаў.

Адправка такой колькасці рэкрутаў на фронт выклікала дэфіцыт працоўных рук, прыход жанчын на мужчынскія рабочыя прафесіі і той самы працэс эмансіпацыі — рост ролі жанчын у грамадстве. Удзел у вайне прымусіў Вашынгтон цалкам пераглядзець канцэпцыі ўнутранай бяспекі. У краіне жылі некалькі мільёнаў патэнцыйна нелаяльных грамадзян — этнічныя немцы і этнічныя ірландцы (яны ненавідзелі Англію). Давялося хутка ствараць прававую базу і структуры для кантролю над падазронай публікай, якую часта нават прымусова дэпартавалі ў правінцыю. У перспектыве тыя напрацоўкі стануць базай для амерыканскай сістэмы аховы нацыянальнай бяспекі.

Не менш глабальнымі аказаліся наступствы імпарту з Еўропы тамтэйшых уяўленняў пра дэмакратыю. Жаўнеры-афраамерыканцы, якія вярталіся з Еўропы, думалі і паводзілі сябе інакш, чым да мабілізацыі. Найперш, у іх свядомасці быў зламаны папулярны шаблон, паводле якога вайна — прэрагатыва белых, а не «лянівых неграў». Шмат амерыканцаў, дарэчы, у 1917-м увогуле былі супраць таго, каб набіраць афраамерыканцаў у войска. Лічылася, што яны адразу пяройдуць на бок Мексікі, якая марыць вярнуць Тэхас і Каліфорнію.

Аднак значна важней было тое, што афраамерыканцы пабачылі больш высокі сацыяльны статус, які мелі чарнаскурыя грамадзяне Францыі. Чарнаскурыя французы цягнулі лямку разам з белымі французамі, а ў амерыканскім войску панавала сегрэгацыя. Чорных амерыканцаў шакавала, што ім можна наведваць тэатры і кавярні, на якіх не было шыльдаў «толькі для белых». Цікава, што гэтым карысталася нямецкая прапаганда. У пракламацыях, якія нямецкія аэрапланы раскідвалі над пазіцыямі афраамерыканцаў, у іх пыталі, ці маюць яны магчымасць вучыцца ва ўніверсітэтах і гэтак далей. Не дзіўна, што наступствам «дэмбелю» пасля заканчэння Першай сусветнай вайны стаў выбух руху за роўныя грамадзянскія правы ў Злучаных Штатах.

Калі сёння чытаць публікацыі гісторыкаў, прысвечаныя красавіку 1917-га, цяжка вылучыць магістральны тэзіс. Адны кажуць, што галоўным вынікам стаў узаемны культурны ўплыў і фарміраванне новай эстэтыкі Захаду. Іншыя гавораць пра пачатак трансфармацыі калектыўнай свядомасці афраамерыканцаў і старт эмансіпацыі жанчын, што цалкам змяніла свет. У любым выпадку, роўна сто таму свет пачаў станавіцца кардынальна іншым. Такім, якім мы ведаем яго зараз.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Вячаслаў Мальцаў



Лідара радыкальнай антыпуцінскай групоўкі «Новая апазіцыя» арыштавалі ў межах федэральнага паліцэйскага рэйду супраць актывістаў апазіцыі. Пры гэтым падчас этапавання ў сталіцу ў Мальцава здарыўся сардэчны прыступ.

Арышт Мальцава выклікаў шквал самых супярэчлівых каментараў. Адны пішуць, што ўлады спрабуюць любымі спосабамі купіраваць пажар народнай незадаволенасці. Другія мяркуюць, што сілавікі папросту вырашылі імітаваць бурную дзейнасць. Трэція звяртаюць увагу на вельмі супярэчлівы бэкграўнд Мальцава. Ён як антысеміт і радыкал моцна дыскрэдытаваў антыпуцінскую апазіцыю, што дазваляла некаторым трымаць палітыка за агента Крамля. Не выключаюць, што ўлада за кошт арыштаў робіць Мальцаву імідж вядучага апазіцыянера, здольнага канкураваць з тым жа Навальным.

Між тым, стала вядома, што Мальцаву пагражае не проста артыкул за арганізацыю несанкцыянаваных акцый. Калі верыць прэсе, у следства ёсць відэазапісы таемных перамоваў затрыманых апазіцыянераў, дзе яны нібыта абмяркоўваюць падрыхтоўку дзяржаўнага перавароту і атакі на Крэмль.

### Цім Фэран



На думку прэсы, у 47-гадовага старшыні брытанскай партыі ліберальных дэмакратаў з'явіўся гістарычны шанец вярнуць ліберам статус адной з вядучых партый краіны.

Больш за сто гадоў таму лібералы паступова маргіналізаваліся праз рост папулярнасці лейбарыстаў, і пасля 1906-га ўжо ніколі не стваралі кабінету міністраў. Пазатэрміновыя выбары ў парламент, прызначаныя на 8 чэрвеня, ствараюць добрыя ўмовы для адраджэння былога аўтарытэту. Справа не толькі ў тым, што самі лейбарысты моцна пасварыліся паміж сабой і цяпер адстаюць у рэйтынгах ад кансерватараў ажно на 20 працэнтаў.

Ліберал-дэмакраты былі адзінай буйной агульнанацыянальнай партыяй, якая год таму рашуча выступіла супраць выхаду Вялікабрытаніі са складу ЕС. Нестабільнасць, якую выклікаў Brexit, стварыла ў брытанскім грамадстве моцны запыт на праеўрапейскую партыю, якой і з'яўляецца структура Фэрана. Па яго словах, штодня да іх прыходзяць некалькі соцень новых сяброў.

Акрамя правалу лейбарыстаў і поспеху ліберал-дэмакратаў, ад наступных выбараў чакаюць трыумфу шатландскія нацыяналісты, якія жорстка крытыкуюць сацыяльную палітыку ўраду.

### Міхаіл Саакашвілі



Экс-прэзідэнт Грузіі пад сцягамі сваёй партыі «Рух новых сілаў» 19 красавіка пачаў працэс аб'яднання ўсіх апазіцыйных партый нацыянал-ліберальных поглядаў.

Першай на блок з Саакашвілі пагадзілася маловядомая партыя «Воля». На чарзе, калі верыць палітолагам, партыі «Грамадзянская дамова» (старшыня — былы дырэктар Мінабароны Анатоль Грыцэнка), «Самапоміч» (старшыня — львоўскі мэр Андрэй Садовы), «Дэмакратычны Альянс». Калі скласці рэйтынгі ўсіх пералічаных фармацый, то сумарная папулярнасць будучай кааліцыі пацягне на 10–12 працэнтаў. Аднак, з улікам эрозіі даверу да Парашэнкі, частка выбаршчыкаў патэнцыйна можа падтрымаць праект, які ў прэсе ўжо назвалі «Блок Саакашвілі».

Прынамсі, планы ў кааліцыі напалеонаўскія — ужо вядома, што ў выпадку перамогі Саакашвілі ўзначаліць урад, Садовы стане спікерам парламента, а Грыцэнка пойдзе ў прэзідэнты. Асноўныя праграмныя тэзісы аб'яднання, якія Саакашвілі агучыў падчас афармлення кааліцыі з партыяй «Воля»,— перасаджаць усіх карупцыянераў, патрабаваць ад алігархаў кампенсацыю дзяржаве за ўсё скрадзенае, і на працягу года запусціць гаспадарку.

Што з гэтага атрымаецца, цяжка сказаць, асабліва з улікам уласцівых украінскім палітыкам асабістых амбіцый.

# Над Старым замкам згушчаюцца хмары

Алесь КІРКЕВІЧ

**Гарадзенскі Стары замак — ці не апошняя цвярдыня, якая пакуль не далася беларускім рэстаўратарам. Тым не менш, за яе ўжо ўзяліся.**


Сучасны стан Старога замку ў Гродне


Стары замак на малюнках Татарнікава паводле матэрыялаў Мікалая Волкава

З аднаго боку, факт пазітыўны — нарэшце замак Баторыя атрымае новае жыццё. З іншага — ёсць падводныя камяні ў праекце, якія могуць істотна нашкодзіць помніку... Але шанец усё выправіць — яшчэ ёсць.

7 красавіка адбылася знакавая ў найноўшай гісторыі Старога замку падзея: прайшла Беларуская рэспубліканская навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Мінкульце. За доўгай назвай хаваецца важны факт: праект рэканструкцыі помніка паводле канцэпцыі Уладзіміра Бачкова фактычна зацвердзілі, хай і з невялікімі праўкамі.

Пра нюансы, звязаныя з праектам, «Новы Час» ужо пісаў на пачатку года. У гісторыкаў ды архітэктараў ён выклікае шэраг нараканняў. Ёсць вялікая верагоднасць, што дзяржаўныя сродкі будуць выдаткаваныя на памылковыя канцэпцыі і высновы аўтара, а пэўныя моманты пасля ўсё адно давядзецца перарабляць: як у выпадку з вежай-цыбулінай на палацы ў Нясвіжы.

Каб разабрацца ў сітуацыі, мы звярнуліся да гісторыка Мікалая Волкава, які ўжо не першы год вывучае Стары замак у Гродне. Паколькі слова на нарадзе 7 красавіка ён так і не здолеў узяць, наша газета дае магчымасць навукоўцу выказаць сваё, альтэрнатыўнае афіцыйнаму, меркаванне.

## «Рэстаўрацыя заканчваецца там, дзе пачынаецца гіпотэза»

***— Спадар Мікалай, распавядзіце падрабязней пра нараду, дзе вы прысутнічалі, але так і не выступілі. Як гэта было?***

— Простымі словамі, рада пры Мінкульце мусіла даць згоду на пачатак працаў у замку. Кіруе радай намеснік міністра Аляксандр Яцко, уваходзяць туды розныя спецыялісты: былы міністр культуры А. Бутэвіч, дэкан архітэктурнага факультэта БНТУ А. Сардараў, архітэктар С. Багласаў і іншыя. Уладзімір Бачкоў прапанаваў стары праект, без аніякіх зменаў і дапрацовак. Казаў шмат разумных словаў, але не па тэме. Слухаеш і думаеш: «Які разумны чалавек!» Калі пачынаеш аналізаваць: поўная лухта...

Галоўны спецыяліст упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны А. Бандарэнка выступіў крытычна, але яму далі літаральна пару хвілін. Напачатку, дарэчы, ён працытаваў галоўны прынцып вядомай у асяроддзі рэстаўратараў Венецыянскай хартыі: «Рэстаўрацыя заканчваецца там, дзе пачынаецца гіпотэза». Але тое, што збіраюцца зрабіць у замку, — гэта суцэльная гіпотэза, прычым гіпотэза, якая грунтуецца не на крыніцах, а выключна на бачанні Бачкова! Адзіныя нараканні з боку ўдзельнікаў рады тычыліся формы купала над уязной вежай: паводле Бачкова ён павінен быць значных памераў і цалкам сферычны, таму многія яго ўжо празвалі «планетарыем».

***— Іншых нараканняў не было?***

— Наконт будаўніцтва фантастычнай камяніцы з боку Нёмана, надбудовы паверхаў на вежах і галерэях, якіх насамрэч ніколі не было, ды руйнавання аўтэнтычных частак, сапраўды, нараканняў не было. У выніку і канчатковай згоды не было, праект адправілі на дапрацоўку. Але чаму? Толькі з-за формы купалу. Рэшта праекту ўсіх задаволіла.

Насамрэч, прыняць нейкае рашэнне радзе не так і проста. Якой бы кампетэнцыяй ні валодалі людзі, якія там засядаюць, яны не могуць «з ходу» ацаніць праект. Тут патрэбная граматная экспертыза з боку спецыялістаў: архітэктараў, мастацтвазнаўцаў, гісторыкаў. Гэтага не было зроблена, таму Бачкоў і можа «ляпіць» усё, што заўгодна. А экспертызу ён падмяняе рознымі ўзгадненнямі з чыноўнікамі і гэтым хваліцца, нібыта праект «ухвалены». Але што можа зразумець чыноўнік, калі нават рада не ў стане на адным пасяджэнні вынесці заключэнне?

## «Божа, што за ідыёцкая цыбуліна!»

***— Вы казалі пра купал... Наколькі важная ягоная форма?***

— Справа ў тым, што форму купала, калі што, можна будзе перарабіць. Падобная гісторыя адносна нядаўна ўжо была ў Нясвіжы. Смешна, але там таксама працаваў... Бачкоў! Тады над галоўнай вежай палацу паставілі фантастычны купал-макаўку. Але з візітам у Нясвіж прыехала Альжбета Радзівіл, нашчадак магнацкага роду, ды задала пытанне: «Божа, што за ідыёцкая цыбуліна!» Здарыўся скандал, купал давялося перарабляць.

Калі ж казаць пра разбурэнне старых муроў альбо дабудову новых будынкаў там, дзе іх ніколі не было, — гэта ўжо незваротныя страты. У першым выпадку для архітэктурнага аблічча замку, у другім — для археалогіі. У дадатак да гэтага, маштабнае будаўніцтва можа выклікаць апаўзанне замкавай гары.

***— Можна больш падрабязна?***

— Згодна праекту Бачкова, трэба разабраць другі паверх прыбудовы ў браме, які, нібыта, не ўпісваецца ў канцэпцыю «замка Баторыя». Вельмі проста могуць таксама разабраць галерэю, якая вядзе да брамнай вежы, і скласці яе наноў. Паводле таго ж плану будзе дабудаваны яшчэ адзін паверх брамнай вежы ды, адпаведна, паверх галерэі: то бок, аўтэнтычны калідор галерэі будзе знішчаны.

Гэта фальсіфікацыя вобразу. Яны падмяняюць Замак Баторыя на «Замак Баторыя, якім ён мог бы быць». Бачкоў гэта любіць называць «завершанай канцэпцыяй Баторыя аўтарства архітэктара Санці Гучы», фактычна, прызнаючы, што ён бярэ на сябе ролю тагачасных архітэктараў. Як архітэктар ён з дапамогай метаду прапорцыяў будуе свае фантазіі — паветраныя замкі.

Адзначу таксама, што дакладна не вядома, хто складаў архітэктурны праект замка, і на цяперашні момант большасць крыніц указваюць на Скота з Пармы. Таму высакапарныя разважанні Бачкова пра тое, якім Гучы хацеў бачыць замак, выглядаюць камічна.

## Што «мерылі» ў «мернай ізбе»?

***— На якія гістарычныя сведчанні ўсё ж такі абапіраецца Бачкоў?***

— Ягоная галоўная крыніца — гэта гравюра Макоўскага, створаная каля 1600 года. Прычым, часам ён ёй верыць, а часам, калі зручна, — не верыць. Фактычна, гравюру ён дапасоўвае да сваёй асабістай «сістэмы прапорцыяў». Рэшта крыніцаў (планы, інвентарныя апісанні) ім цалкам ігнаруецца. Адна з прычын гэтага — банальнае няведанне нямецкай і польскай моваў.

Напрыклад, каб чытаць тагачасныя замкавыя інвентары, трэба ведаць польскую мову. Ён яе не ведае — яму перакладаюць, і тое з памылкамі. Забаўны прыклад: у інвентары ёсць згадка пра «мерную ізбу». Бачкоў з гэтага робіць выснову, што там нешта мералі. Ён ужо, напэўна, прыдумаў, якія вагі туды паставіць... Насамрэч, «мерная ізба», калі зірнуць нават у слоўнік XIX стагоддзя, — гэта жылы пакой сярэдняга памеру. Іншымі словамі, да паўднёвай сцяны Старога замка быў прыстаўлены драўляны будынак, у якім было дзве «мерныя ізбы», ці пакоі, якія прызначаліся для пражывання служак.

***— То бок поўная некампетэнтнасць у гістарычных пытаннях?..***

— На жаль, так. Адкуль на брамнай вежы ўзяўся трэці паверх? Яны прачыталі міжваенную працу Яраслава Вайцэхоўскага пра замак, якая, на той час, была вяршыняй даследаванняў, але зараз ужо безнадзейна састарэла. Там было напісана пра тры паверхі брамнай вежы, але гэта памылка аўтара. Вайцэхоўскі прачытаў у нямецкай крыніцы пра «два паверхі», і памылкова палічыў, што гэтыя два паверхі лічыліся без уліку т. зв. партэра, ці першага паверху ад узроўню зямлі, як гэта цяпер робіцца ў Заходняй Еўропе і Польшчы. Такім чынам, першапачаткова паверхаў, нібыта, было тры — насамрэч, два. Але Бачкоў паўтарае чужыя памылкі...

Яшчэ адзін прыклад: пры вежы, якая выходзіць у бок Нёмна, на гравюры Макоўскага бачная прыбудова. Бачкоў робіць выснову, што гэта здаравенны будынак побач, які трэба аднаўляць. Насамрэч, гэта знешняя лесвіца, што вяла ў вежу і была зусім невялікай па габарытах. Яшчэ польскія археолагі выявілі падмуркі гэтай лесвічнай клеткі. Бачкоў жа хоча бачыць на гэтым месцы вялізны гмах.

Дарма, што археолагі даследавалі гэты ўчастак і не знайшлі значных падмуркаў. Што робіць Бачкоў? Кажа, што гэта быў фахверк (будынак з нясучай драўлянай канструкцыяй)! Але ж фахверк — гэта фармат гаспадарчых пабудоваў, а не каралеўскіх рэзідэнцыяў... Поўная несумяшчальнасць. Затым, ён працягвае думку, маўляў, навошта будаваць фахверк (прыдуманы ім жа), давайце мураваны будынак! Такім чынам, «элегантна» выходзіць на выдуманы гмах, якога не існавала ў прынцыпе.

## «Баюся, што вежа спаўзе ў Нёман...»

***— Як я зразумеў, ёсць яшчэ і пытанне наконт замкавай гары, якая можа наўпрост спаўзці...***

— Я гісторык, геадэзіяй не займаюся, але ёсць факт: на працягу чатырох стагоддзяў гара спаўзала. Такім самым чынам зусім побач, на суседнім з замкам узгорку, паўтара стагоддзі таму абрынулася частка Каложскай царквы. То бок, негатыўны прэцэдэнт ужо ёсць. І зараз, на тым месцы, якое ўвесь час апаўзала, яны збіраюцца будаваць агромністую вежу і сцены!

Я вельмі баюся, што яны атрымаюць і засвояць грошы, панабудоўваюць усяго, а вежа наўпрост спаўзе ў Нёман. І не проста спаўзе: пацягне за сабой аўтэнтычныя старыя фрагменты сцяны — у мурах пойдуць трэшчыны. Калі ж яны будуць умацоўваць падмуркі вежы тонамі бетону, то знішчаць усю археалогію навокал — такое вось замкнёнае кола.

***— Вы кажаце пра «замкнёнае кола», але ці існуе для замку нейкі пазітыўны сцэнар?***

— Самае важнае, на мой погляд, гэта знайсці магчымасці для ўмацавання аўтэнтычных сцен замка, у прыватнасці брамы, умацаваць замкавы пагорак. Стан брамнай вежы і прыбудовы да яе зараз сапраўды цяжкі, па іх ужо пайшлі трэшчыны. На схіле Нёмана наогул нічога не варта было б будаваць — гэта вельмі рызыкоўна.

Навошта рабіць грандыёзныя навабуды на схіле, калі мы маем стары палац і браму, хай і ў цяжкім стане, але над якімі можна і варта працаваць? Іх можна рэстаўраваць, зрабіць там якасныя і гістарычна абаснаваныя інтэр'еры — гэта ж значна важней! Мой варыянт: аднавіць палац Баторыя і брамную вежу, а руіны сцяны — хай застануцца руінамі, гэта таксама гісторыя і непаўторная эстэтыка. Гэта значна больш бюджэтны і гістарычна апраўданы варыянт.



Праект Уладзіміра Бачкова з праўкамі і каментарамі Мікалая Волкава




# Брутальнае падсяленне ў гістарычнай зоне Нясвіжа

Валер ДРАНЧУК

**Што магло здарыцца на старажытных пагорках Новага Места ў Нясвіжы? Адкуль надышоў гэты да аглушэння падступны гвалт? Я адчуў яго не адразу і не вомегам, хоць за мной штохвілінна сачыла «вока» той зламыснай пачвары.**

## З відам на возера, або Глядзіце, хто прыйшоў

Гэтае месца за Слуцкай Брамай, за возерам, што ў рэчышчы Вушы, на левабярэжных яе пагорках, адвеку завецца Новае Места. Такое «новае», што знаны радзівілаўскі гравёр і картограф Тамаш Макоўскі пазначыў яго на мапе-малюнку Нясвіжа ажно чатырыста гадоў таму (1605).

Калі прайсці праз масток і збочыць берагам возера ўправа, глыбей, праз паўкіламетра будзем стаяць акурат на... месцы здарэння — апартаменты запэцканай цноты зеўраць грозна і ваяўніча, хоць у звыкла-будзённым раскладзе гэта папросту будоўля, будаўнічая пляцоўка. Але сказаць так — яшчэ нічога не сказаць. Тое, што бачым, — не менш як падзея-прэцэдэнт, якую гісторыкі Нясвіжа пэўна занясуць у шэраг асаблівых, эпатажных.

Перад намі будучы офіс Нясвіжскага міжраённага аддзялення Камітэта дзяржаўнай бяспекі (КДБ).

Сюды, на Новае Места, у гістарычную ахоўную зону «культурнай сталіцы», прыйшло брутальнае будаўніцтва. Неўзабаве, у маі месяцы, плануецца падсяленне. Для пачатку назавём гэтае месца так, як яно пазначана ў Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь, — «Былы пасёлак лясніцтва». Старэйшыя жыхары памятаюць іншую назву, сваю, тутэйшую, — Дамкі (даўней, і па-польску — Domki). «Там, у Дамках...» — любілі казаць. Альбо, паказваючы рукой: «Вунь там, за Дамкамі...» Дамкі стаялі наводшыбе, досыць высока, іх было бачна і з Ратушнай плошчы, і з-пад кляштарных сцен насупраць, і з самога Радзівілаўскага палаца. Тут жа, на пагорку, за Дамкамі жыла сваім ціхім жыццём вёсачка Агароднікі, цяпер адна з мноства вуліц Новага Места на ўскрайку горада.

Пасёлак лясніцтва складаў у сабе гарманічны архітэктурны ансамбль з 5–6 будынкаў. З іх відочна пераважалі тры; сёння яны і ёсць, паводле адмысловага спісу, архітэктурнай каштоўнасцю Беларусі. У пашпарце ахоўнага аб'екта, якія мне далі



Ход будаўніча-мантажных работ на восьмым месяцы. Аднак будоўля пакуль не мае пашпарта аб'екта і дазволу райвыканкама. Аўтарская хроніка, снежань, 2016 год



Навабуд літаральна падпёр «гістарычную спадчыну». Сёння іх падзяляе клумба і шэры плот. Аўтарская хроніка, снежань 2016

ў райвыканкаме, чамусьці не пазначаны архітэктурны стыль.

Тым часам менавіта стыль — так званы закапанскі — выдае адметнасць гэтых пабудоваў пачатку ХХ стагоддзя. Стыль, у якім да рысаў гарадскіх дамкоў і будынкаў душэўна дапасаваныя фальклорныя матывы: высокі, дэкараваны гэтак званымі «слыхавымі акенцамі» дах, дранкавы ці чарапічны, некалькі рознапамерных камінoў, чарганне геаметрыі вокнаў, адмысловы падмурак. І самае галоўнае, што будынкаў гэтага выразнага стылю ў Беларусі, апроч Нясвіжа, засталося зусім няшмат — лічы, адзінакропкавыя прыклады (Стоўпцы, Маладзечна, Браслаў, Глыбокае, Свіслач, яшчэ два ці тры адрасы). Дый захаванасць іх, самі ведаеце... Нясвіжскі варыянт калісьці папулярнага стылю даволі стрыманы, зусім не пыхлівы, камерны; ягоная пластыка збліжаная з традыцыйнай беларускай, найперш сядзібнай, хоць і адрозніваецца падкрэсленай рафінаванасцю ды прасторавай атмасфернасцю.

Напраўду, можна адно падзівіцца, як удала дабраў архітэктар гэтае месца, як чула спалучыў яго асаблівасці з праектам: вынес будынкі на ўзвышша, падняў над возерам, апрануў у высока-стромкія ды мудрагелістыя дахі — глядзі, любуйся, народ!

«Будынак адміністрацыйнага прызначэння», як яго паймянавалі ва ўсіх афіцыйных паперах (вось яна, службовая канспірацыя!), размясціўся на пагорку злева, брутальна заступіўшы доступ да аднаго з трох падахоўных дамкоў левага сектару — сёння ў ім месціцца зубапратэзнае аддзяленне. На сцяне побач з уваходам ахоўная шыльда: прычыненне шкоды караецца па законе...

Я адчыніў дзверы дома і, нягледзячы на спецыфіку апартаментаў, адчуў музейную атмасферу, спынены час. Вузкая стромая лесвіца злева вяла на мансарду... Загадчыца аддзялення Вольга Ратомская на маю просьбу падняцца на другі паверх катэгарычна адмовіла — толькі з дазволу галоўнага ўрача!

## Узгорак, што трымае карону

Прайсціся ў Дамкі — адна асалода. Ад цэнтра з Ратушнай плошчай — пятнаццаць ці дваццаць хвілін няспешнай хады. За Слуцкай брамай на два бакі азёрны краявід, злева адкрываецца панарама замка. З погляду турыстыкі, якая быццам прапісалася ў Нясвіжы, гэты раён, улучна з Брамай — ці не поўная процілегласць Замкаваму комплексу. Дзесяцігоддзі акупаваны медычнымі службамі, «былы пасёлак лясніцтва» з будынкамі закапанскай архітэктуры пакуль аніяк не даступны турыстам. Пра гісторыю і яго цікавостку няшмат распавядуць і жыхары Нясвіжа. Ці не таму вока забудоўнікаў і рушыла сюды, на гэты ціхі востраў, дый інвестар, пэўна, доўга не вагаўся.

У каго з мінакоў ні пытаў, што будуецца, мне адказвалі, інтанацыйна і па сутнасці, бадай, аднолькава: «Ну што? КГБ!» Часам, праз кароткую паўзу, дадавалі: «Улада ў іхніх руках. Усё ж можна. І чаго яны сюды палезлі! У горадзе што, хіба месца няма?..»

Цікава і другое. Мне ніхто з жыхароў не сказаў: вось, маўляў, дамкоў не чапаюць, стаяць цалюткія, як стаялі, — і тое добра, чаго ты бядуеш... Так не сказаў ніхто! Кожны па-свойму ўсведамляў факт страты і выказваў расчараванне.

Я мусіў спраўдзіць гэты нюанс для сябе, каб не запасці зусім на сваё, асабістае. І прыемна запэўніўся, што звычайны шараговы чалавек, без «тэорыі» ў галаве, не маючы нейкага адмысловага светапогляду, заснаванага на філасофіі краявіду, свабодных лініях далягляду, на зялёных малюнкавых відарысах, якія патрэбны чалавеку як лекі, — лёгка рабіў выснову: будаўніцтва ў Дамках — гэта нешта не тое. Бадай, кожны задумваўся, уражаны: ці не нахабны выклік, нішчанне, псаванне прыроды і чысціні, утульнага і асталяванага асяродку, што цешыў вока? Было — а цяпер няма... і не будзе.

Жыхар вуліцы Горкага:

«Яшчэ пазалетась бачыў, як там прыбіраюцца здаровыя дрэвы. З нечага ж дазволу гэта рабілі! Спачатку падумаў: санітарная высечка, прыбіраецца лішняе. Але хутка стала відаць, што будпляцоўка. Мусіла вісець хоць нейкая шыльда з назвай аб'екта, але яе не было дакладна. Я арнітолаг, і наведваў гэтыя пагоркі. Тут вясёлае добрае месца, заўсёды шмат птушак».

Рабочы будоўлі:

«Мая думка?.. У раёне паўсотні будынкаў, якія пустуюць. Ёсць і ў самым Нясвіжы. Няхай бы за які браліся. Абавязкова было сюды?..»

Жыхар вуліцы Зарэчнай:

«Мне зверху добра відаць. Пытаецца, навошта... Як жа — каб была цішыня і спакой, каб ніхто побач — ні міліцыя, ні пракурор, ні Іван Іванавіч, а толькі Я. Вось чаго яны дамагаліся — гэтай поўнай ізаляцыі. І выгляд які — вось пабачыце, усё падбяруць пад сябе. Яны робяць не офіс, а рэзідэнцыю!»

Прадавец адзення ў цэнтры Нясвіжа:

«Звычайнае безгалоўе. Горшы варыянт прыдумаць цяжка. Нейкая дурасць. Або дыверсія».

Жыхар вуліцы Сыракомлі:

«Як магло здарыцца?.. А як магло здарыцца, што ў цэнтры Еўропы расквітнее дыктатура? І ўсё, што цяпер бачым?..»

Услед за суразмоўцамі і мне рабілася па-чалавечы шкада, што гэтак несамавіта, паспешліва разбураецца эдэмны малюнак старой часткі горада, якая тут, на паўднёва-заходнім баку, нясе ў сабе своеасаблівы арэол і карону горада.

Нягледзячы на жыллёвы сектар, што цесным кальцом аблямаваў пагорак, тры сіметрычна расстаўленыя дамкі стварылі атмасферна-піктарыяльны, карцінна-малюнкавы відагляд. Ён быў дасканалы і завершаны. Нават час, час-мастак і час-разбуральнік, не парушыў яго абрысаў, не здаў аніякім абставінам на гвалт і знявагу. Карціна заставалася ў раме і на сваім месцы.

Больш за тое, менавіта ў гэтай частцы, далей за пагоркам пачаў фармавацца сацыяльна-рэкрэацыйны і аздараўленчы сектар: раённая лякарня, санстанцыя, у перспектыве (будуецца з 2012 года!) — радзільны дом і жаночая кансультацыя.

## «План Барбароса» ў дзеянні?

Улада разумела наступствы рэзанансу, і галоўнае было — займець, як мне казалі, «усе паперы». Аднак і гэта — збіранне ўсіх неабходных папераў — не спыняла рушыць у наступ, калі папер тых неставала. На момант узгаднення праекта з Акадэміяй навук (Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, лістапад 2016 года) будынак быў амаль завершаны ў вонкавай частцы. Для мяне застаецца пытаннем, як маглі акадэмічныя эксперты прыняць такія фармальна абразлівыя ўмовы супрацы, нават калі навуковыя дачыненні маюць пратакольна «рэкамендацыйны характар».

Толькі на восьмым месяцы будаўніча-мантажных работ на аб'екце з'явіўся і адпаведны пашпарт — не паводле прынятых стандартаў, ад першага забітага ў дол калка, а ў адказ на жорсткія санкцыі абласной інспекцыі Дэпартамента кантролю і нагляду за будаўніцтвам!

Затое тэмпы будоўлі ўражвалі — не раўнуючы, «план Барбароса» ў дзеянні: свядома спешны, агрэсіўны па сваёй сутнасці захоп тэрыторыі. Нашай культурна-гістарычнай плыні. Нашай памяці і нашай свядомасці.

**Фота аўтара**

**Працяг у наступным нумары**

## Шаноўныя чытачы!

**Кожную суботу жыхары Мінска і Мінскай вобласці змогуць набыць новы нумар «Новага Часу» у бліжэйшым да дому шапіку «Белсаюздруку».**

Як абяцае кіраўніцтва РУП «Белсаюздрук», газету «Новы Час» можна будзе набыць практычна ў кожнай гандлёвай кропцы Мінска і вобласці.

Мы заклікаем нашых чытачоў спраўджваць гэту інфармацыю і паведамляць у рэдакцыю пра адсутнасць газеты ў продажы.

**Рэдакцыя «Новага Часу» вельмі спадзяецца на вашу шчырую падтрымку!**

## «Праз імглу апошняй ночы...»

Алесь КІРКЕВІЧ

**У кнігарні «ЛогвінаЎ» прайшоў інтэлектуальны марафон салідарнасці з усімі затрыманымі ды пацярпелымі ад рэпрэсій цягам сакавіцкіх падзеяў.**




Удзел у марафоне прынялі вядомыя паэты, празаікі, філосафы ды музыкі.

Паэт Андрэй Хадановіч, які выступіў у якасці нефармальнага вядучага імпрэзы, абвясціў, што арганізатарамі з'яўляюцца ўсе тыя, хто ані хвіліны не думаючы пагадзіўся ўдзельнічаць у марафоне. Склад удзельнікаў атрымаўся сапраўды зорны: ад Уладзіміра Мацкевіча да Лявона Вольскага.

Сам Хадановіч пасля чытання вершаў Чэслава Мілаша ўзяў гітару ды праспяваў «Муры» Яцэка Качмарскага — легендарную песню з часоў супрацьстаяння з прасавецкім рэжымам у Польшчы. Выступоўцы яшчэ неаднаразова на працягу вечара будуць звяртацца да класікаў мінулых гадоў, якія супрацьстаялі аўтарытарызму рознага кшталту: у Беларусі, на жаль, зноў гэта актуальна.

«Я ведаў шмат каго з тых, хто зараз праходзіць па «Справе патрыётаў», — кажа кіраўнік Саюза пісьменнікаў Барыс Пятровіч. — Гэта сапраўдныя патрыёты, на такіх людзях трымаецца Беларусь. Зараз іх трэба ўсялякім чынам падтрымліваць. Патрыёт не злачынца!»

Нечаканасцю для некаторых стаў выступ Алеся Мікуса, які на дудзе зайграў гімн «Белага легіёна». Прысутным раздалі раздрукаваныя словы, таму падпявалі нават маладзёны, якія ў часы дзейнасці арганізацыі яшчэ хадзілі ў дзіцячы садок ці школу: «Праз імглу апошняй ночы, крочыць Белы легіён...» — з кожным куплетам гучала ўсё больш упэўнена.

### Адказы на крыжаванку «Глядзіце ў будучыню смела!», прысвечаную Дню Волі, 25 сакавіка (НЧ, №11 ад 24 сакавіка)

**Па гарызанталі:** 1. Сто. 8. Прысяга. 9. Адно. 10. Вера. 11. Пагоня. 12. Кніга. 13. Омск. 14. Сцяг. 17. Апіс. 19. Арфа. 20. «Вянок». 21. Дарога. 23. Шчыт. 24. Лекі. 25. Украіна. 26. Час.

**Па вертыкалі:** 2. Тэраўскі. 3. Рынг. 4. Ягня. 5. Каўнас. 6. Мова. 7. Свабода. 15. Цыркачка. 16. Граматa. 18. Смоліч. 20. Воля. 21. Дэка. 22. Офіс.

# «Беларусь мая, хворая маці...»




**Па гарызанталі:** 2. Чалавек сабе не ... (прыказка). 6. «Беларусь, мая хворая ...,\\ са слязою Сажа на шчацэ.\\ У парваным чарнобыльскім плацці\\ пачарнелым Сусветам ідзе». З верша Э.Акуліна «Краіна Начы». 7. «Пажарнікі — заложнікі прагрэсу —\\ Ад цела аддзіралі з мясам ...». З верша С.Законнікава «Чорная быль». 8. «Ігліцай нейтроннай іскрацца лясы,\\ Чарнобылем пахнуць ...». З верша В.Зуёнка «Лета трывожных дажджоў». 9. «На зямлі Прысожжа згубна ціха,\\ Цэзіем апалены ...». З верша М.Мятліцкага «Жураўліны рэквіем». 12. «Ці не з Прыпяці іх суне ...\\ Над бядою Ельска і Нароўлі?». З верша А.Вялюгіна «Вясна трывогі нашай». 13. Хімічны радыеактыўны элемент. 14. Тое, што і ікона; ... пад назвай «Маці Божая ахвяр Чарнобыля» намаляваў выдатны беларускі мастак, грамадскі дзеяч А.Марачкін. 17. Выжыванне найбольш моцных арганізмаў. 19. Няміласць, гнеў (састарэлае). 21. «Як з'явілася ты,\\ ... іначай шуміць». З верша Я.Купалы «Вясна». 22. «Пасля чарнобыльскай навалы\\ На Беларусь прыпала\\ ... — з дзесяці \\ Хірасім». З верша Р.Барадуліна «Жалоба». 23. Невялікая рачная рыбка сямейства карпавых. 24. Пачатак, першакрыніца чаго-небудзь (пераноснае). 26. «... на адсяленне». Зборнік апавяданняў журналісткі, пісьменніцы Н.Рыбік, ураджэнкі адселенай хойніцкай вёскі. 27. «Веку жорсткага ...\\ Нас прарэджвае, як лес». З верша М.Маляўкі «Чарнобыль, 1986 год». 31. «Зорка «...». Кантата кампазітара Д.Даўгалёва пра катастрофу на Чарнобыльскай АЭС. 34. ... або фантом. Тое, што цяпер уяўляюць сабой некалі буйны горад Прыпяць. 35. «Чыстая ...\\ Без ніякіх прыкмет.\\ Пуста.\\ Чарнобылем пахне Сусвет». З паэмы У.Някляева «Зона». 36. «Тут ядзерна дрэмле ў атруце ...,\\ Няўцешная птушка ўзлятае з гнязда». З верша М.Мятліцкага «З пакутнай, атручанай небам зямлі». 37. Тоўсты сук. 38. Усё старадаўняе, што ўзнаўляе старое, мінулае.

**Па вертыкалі:** 1. «Ёсць ...,\\ Дзе нельга збіраць грыбы,\\ Дзе могуць магілы выпростваць гарбы». З верша Р.Барадуліна «Дазвол». 2. Скручаная лаза, якой вяжуць плыты. 3. Тое, што і рукаў. 4. «Чорны стронцый апякае ...,\\ Лёгка каля продкаў тут заснуць». З верша Н.Аксёнчык «Перасяленне». 5. «Там гараць нашы хаты і свірны,\\ Там гарыць наш палескі ...». З верша А.Грачанікава «Ах, Чарнобыль...». 10. «Я ўзіраюся ў зорнае ...\\ Над мёртвымі вёскамі\\ Гомельшчыны і Магілёўшчыны». З верша А.Канапелька «Пілоту». 11. «..., ... ,\\Там, у Зоне,\\ Засталася лялька Галя». З верша А.Камароўскага «Чарнобыльская калыханка». 15. «Не ляціце пакуль што туды,\\ Там, дзе... разліта шырока». З верша Ю.Свіркі «Журботны працяг песні». 16. «Чарнобыльская ...». Кніга беларускай пісьменніцы, лаўрэата Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч. 18. «Чорны ...». Кінастужка кінарэжысёра В.Турава, знятая па аповесці В.Казько і прысвечаная Чарнобыльскай катастрофе. 20. Спосаб друкавання. 23. «Больш за ўсё ... выпала на Беларусь,\\ На маленькую нашу Радзіму». З верша С.Бузун «Трагедыя Чарнобыля». 25. «Каб за нас не пакутавалі дзеці.\\ Не яны каб,\\ а мы неслі ...». З верша Н.Арсенневай «Чарнобыль». 28. «Чорны ... да свайго крушэння\\ На агні Чарнобыля плыве». З верша В.Гардзея «Чорны Роджар». 29. Мінерал цёмнага колеру; гарачыя асколкі яго збіралі на даху 4-га энергаблока салдаты, безабаронныя ахвяры Чарнобыля, многія з іх памерлі ад прамянёвай хваробы. 30. Самы лепшы, найвышэйшы. 32. Воцат — не гарэлка, а кум — не ... (прыказка). 33. Паводле ўяўленняў, месца, дзе церпяць вечныя пакуты душы памерлых грэшнікаў.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №381

Падпісана да друку 21.04.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.